Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 41 (4739) 18 кастрычніка 2013 г.

## Пункціpам

✔ Беларуска-расійская інтэграцыя спрыяе ўмацаванню адзінства на ўсёй еўразійскай прасторы. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка адзначыў гэта 11 кастрычніка на прэс-канферэнцыі расійскім рэгіянальным СМІ, якая доўжылася пяць з палавінай гадзін. Кіраўнік дзяржавы адказаў больш як на 30 пытанняў, што датычылі беларуска-расійскага супрацоўніцтва, унутранай палітыкі. Закраналіся таксама тэмы развіцця інтэграцыйных працэсаў на постсавецкай прасторы, узаемаадносін Беларусі з рознымі краінамі і рэгіёнамі свету.

✔ Прэзідэнт Беларусі выказаў спачуванні родным, блізкім і калегам народнай артысткі РСФСР Вольгі Аросевай у сувязі з яе смерцю. «Вольга Аляксандраўна пражыла доўгае і насычанае творчае жыццё, пакінуўшы яркі след у гісторыі тэатра і кіно. Яе любілі як адну з самых яркіх і таленавітых актрыс сучаснасці», — гаворыцца ў спачуванні.

✔ Дзень беларускага пісьменства ў 2014 годзе пройдзе ў Заслаўі 7 верасня. Пра гэта паведамляецца ў пастанове Савета Міністраў ад 11 кастрычніка 2013 года. Нацыянальны арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні Дня беларускага пісьменства ўзначаліў намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік. У склад аргкамітэта ўвайшлі прадстаўнікі міністэрстваў інфармацыі, культуры, сувязі і інфарматызацыі, адукацыі, спорту і турызму і інш.

✔ Нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм» упершыню возьме ўдзел у васямнаццатым міжнародным дзіцячым кінафестывалі «Залаты слон», які пройдзе з 14 па 20 лістапада ў горадзе Мумбай (Індыя). «Залаты слон» — адзін з найбуйнейшых і самых яркіх дзіцячых форумаў у свеце. За галоўны прыз у «Міжнароднай праграме» паспаборнічае анімацыйны фільм «Піліпка» рэжысёра Таццяны Кубліцкай. Айчынная анімацыя таксама значыцца ў пазаконкурснай праграме.

✔ Беларускаму пісьменніку Анатолю Дзялендзіку ўручаны славацкі медаль Яна Налепкі. 40 год таму па сцэнарыі аўтара быў зняты сумесны савецка-чэхаславацкі фільм «Заўтра будзе позна». Ён распавядае пра ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны, арганізатара і камандзіра партызанскага атрада Яна Налепку, якому пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Медаль Славацкага саюза барацьбітоў-антыфашыстаў уручаецца за падтрымку міру і ветэранаў Другой сусветнай і Вялікай Айчыннай войнаў.

✔ Маладыя дзеячы тэатральнага мастацтва Беларусі запрашаюцца да ўдзелу ў міжнародным фестывалі па сцэнічным фехтаванні «Сярэбраная шпага», які пройдзе ў Маскве 3 — 8 красавіка 2014 года. Заяўкі прымаюцца да 10 сакавіка 2014 года.

✔ 22 кастрычніка ў 10.20 і 22.00 глядзіце праграму «Дыя@блог. Пра літаратуру» на канале «Беларусь 3» з удзелам галоўнага рэдактара выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктара Шніпа.

**Падрыхтавала**
**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**













© Frankfurt Book Fair / Alexander Heimann



*З 9 па 13 кастрычніка ў Франкфурце (Германія) адбылася Міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш, дзе прэзентаваліся і беларускія выданні. Ганаровым госцем выстаўкі сёлета была Бразілія. Яе стэнд (на фота) наведвальнікі назвалі адным з самых цікавых і ўтульных.*

Падрабязнасці чытайце на стар. 2 ▶

## Пытанне да творцы

# Чым прывабіць замежнага чытача?



**Навум Гальпяровіч, пісьменнік, дырэктар радыё «Беларусь»:**

— Зыходзячы з уласнага досведу работы на міжнародным вяшчанні, магу сказаць, што нашых замежных слухачоў цікавіць у першую чаргу гісторыя Беларусі, тое, чым беларусы адрозніваюцца ад іншых, наша літаратура, прырода і г. д. Зацікавіць чытача можна вядомымі асобамі нашай краіны, якія ўвайшлі ў гісторыю іншых народаў. Беларусы — нацыя донараў. Не сакрэт, што многія выбітныя дзеячы і нават героі, як герой Чылі Ігнат Дамейка, паходжаннем з Беларусі. Ведаючы гісторыю нашай краіны, імёны, можна і замежнаму чытачу, і замежнаму слухачу распавесці вельмі многа цікавага пра Беларусь. Думаю, адно толькі імя Францыска Скарыны, славутага дзеяча Адраджэння, здольнае зацікавіць замежную аўдыторыю, бо далёка не ўсе ведаюць, што ён друкаваў кнігі раней, чым многія іншыя вядомыя першадрукары.

Галоўнае ж — любіць сваю краіну, верыць у яе народ і яго маральныя сілы, і толькі гэтая любоў і адданасць роднай зямлі дапамогуць зацікавіць прадстаўніка іншага народа, бо калі ты з любоўю і адданасцю распавядаеш пра родную зямлю, табе павераць.



**Ларыса Языковіч, галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»:**

— Для гэтага айчынныя кніжныя выданні павінны раскрываць найбольш важныя падзеі з жыцця краіны. Замежнаму чытачу будзе карысна адкрыць для сябе Беларусь — праз яе гістарычныя і культурныя сувязі з яго ўласнай краінай. Заўсёды прываблiваюць нацыянальныя казкі, фальклорныя матэрыялы. Могуць зацікавіць кнігі, прысвечаныя знакамітым асобам, выбітным дзеячам гісторыі і культуры. Прыкладам вялікай цікавасці замежнага чытача можа паслужыць серыя «Энцыклапедыя рарытэтаў» нашага выдавецтва. Тых, хто любіць вандраваць, прывабяць выданні, прысвечаныя помнікам прыроды і культуры краіны, яе турыстычным славутасцям. І ўсё ж любому чытачу патрэбна ў першую чаргу прыгожа выкананая кніга, яе высокі паліграфічны і мастацкі ўзровень.



**Віктар Жыбуль, паэт, навуковец:**

— Складана адказаць на гэтае пытанне. Неяк я чытаў артыкул польскай даследчыцы, які называўся «Чаму палякам не цікавая беларуская літаратура». Яна распавядала, якія ў іх цяпер тэндэнцыі, як да кожнага з папулярных у нас жанраў ставяцца палякі. І так атрымалася, што і гэты жанр палякі не любяць, і гэты ў іх непапулярны. Але я так і не зразумеў з таго артыкула, што ж яны тады любяць. Мне падаецца, што літаратуру трэба зрабіць прывабнай для чытача ўвогуле. Як з'яву. Як на мяне, у мастацкім творы павінна быць нейкая загадка. Адам Бабарэка калісьці напісаў артыкул «Творы як мова загадак». І гэта неабавязкова мусіць быць дэтэктыў. Загадкі могуць быць схаваныя ў творах любога жанру. Мне здаецца, што калі твор напісаны прасталінейна ці занадта празрыста, яго не вельмі цікава чытаць. Мяне ж цікавяць, напрыклад, аўтары, якім удаецца ў творы прыхаваць пэўны фармальны прынцып, але менавіта прыхаваць, калі ён не навідавоку.

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Чаканне вынікаў

Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі сабраўся днямі, каб абмеркаваць надзённыя пытанні сваёй дзейнасці.

Найперш быў вызначаны Аргкамітэт па правядзенні конкурсаў, прысвечаных 70-годдзю вызвалення Беларусі, 70-годдзю Вялікай Перамогі і 100-годдзю з пачатку Першай сусветнай вайны. Для ўдзелу ў конкурсах прымаюцца мастацкія творы ў жанры дакументальнай, вялікай і малой прозы, паэзіі і драматургіі. Тэрмін падачы работ — з 1 студзеня па 1 верасня 2014 года. Пра сваю падтрымку конкурсаў заявіла і Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. Яшчэ адзін конкурс, адрасаваны маладым творцам, школьнікам і навучэнцам гімназій ды ліцэяў рэспублікі, падтрымае СПБ. Па традыцыі, яго арганізуюць Міністэрства адукацыі Беларусі і часопіс «Роднае слова». Вынікі будуць падводзіцца ў маі 2014 года.

Старшыня СПБ Мікалай Чаргінец абвясціў пра падрыхтоўку да пісьменніцкага Пленума, які адбудзецца 20 снежня. На ім будуць падведзены вынікі гадавой працы, а таксама вырашаны некаторыя кадравыя пытанні.

Члены Прэзідыума адзінагалосна прагаласавалі за прызначэнне дзесяці маладым творцам штомесячных стыпендый на наступны год.

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

# Брава — Франкфурт!

Міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш у Франкфурце — найбуйнейшая ў свеце. Сюды штогод прыязджаюць больш як сем тысяч экспанентаў з сотні краін. У гэтым годзе колькасць наведвальнікаў выстаўкі дасягнула амаль 300 тысяч.

Ганаровы госць сёлетняга кніжнага кірмашу — Бразілія, — насуперак клішэ пра краіну сонца, пляжаў і самбы, даводзіла, што ў сучасным свеце найбольш важнымі з'яўляюцца роўныя магчымасці атрымання адукацыі і яе даступнасць. «Выстаўка паказала, якія новыя «тэктанічныя зрухі» адбываюцца ў выдавецкай справе, — засведчыў дырэктар Франкфурцкай кніжнай выстаўкі-кірмашу Юрген Бос. — Мы часам адзначаем толькі павелічэнне выдавецкага сектара, але пакідаем па-за ўвагай вялікую колькасць новых, крэатыўных гульцоў на гэтым полі, у тым ліку інвестараў і прамоўтараў творчай індустрыі. Так што значнасць Франкфурцкай выстаўкі як інтэрнацыянальнага месца сустрэчы з кожным годам толькі ўзмацняецца».

Не ўпершыню ў Франкфурт завіталі і нашыя суайчыннікі. Сёлета Беларусь прадставілі тут Міністэрства інфармацыі нашай краіны, выдавецтвы «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» і «Пачатковая школа», а таксама Выдавецкі дом «Звязда».

— Неверагодная колькасць чытачоў, аўтараў і выдаўцоў з усяго свету: у некаторыя павільёны было нават цяжка патрапіць! — дзеліцца ўражаннямі намеснік дырэктара РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» Ала Корбут. — Побач былі стэнды Румыніі, Славакіі, Азербайджана, Арменіі, Грузіі… Але больш падыходзілі да нас. Нашай галоўнай «разынкай» стала кніга Алены Брава «Дараванне» на трох мовах: беларускай, рускай і нямецкай. Да слова, усе госці беларускага стэнда адзначалі вельмі «еўрапейскае» аздабленне гэтай кнігі, выкананае мастаком Русланам Найдзенам.

Вялікую ўвагу выклікалі і кнігі для дзяцей, выдадзеныя пра Беларусь і яе сталіцу. У першыя дні працы форуму нічога нельга было прадаваць, але наведвальнікі з задавальненнем гарталі кнігі Г. Аўласенкі, Н. Ігнаценка, цікавіліся сучаснымі беларускімі аўтарамі дзіцячай літаратуры і адзначалі, што стыль айчынных выданняў найлепшым чынам адпавядае іх зместу. У адрозненне ад найноўшых трэндаў «анімацыйнасці і карыкатурнасці», а таксама завышанай увагі да формы, наша дзіцячая кніга, паводле Алы Корбут, можа ганарыцца класічным дызайнам.

Акрамя таго, прадстаўніца Выдавецкага дома адкрыла «ЛіМу» яшчэ адзін сакрэт: «На выстаўцы мы атрымалі магчымасць пазнаёміцца з дзіцячай літаратурай розных краін і дамовіліся, напрыклад, з нашымі індыйскімі калегамі пра абмен праектамі для дзяцей». Так што вынікі «франкфурцкіх вакацый» — яшчэ наперадзе!

**Кіра МУРАЎСКАЯ**

*З нагоды*

# Па-купалаўску



Фота БелТА

*Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў уручае ўзнагароду начальніку аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Дзяржынскага райвыканкама Наталлі Сінюковіч.*

У мінулую пятніцу Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы прымаў удзельнікаў урачыстасці, якая ладзілася з нагоды прафесійнага свята работнікаў культуры. Лепшыя прадстаўнікі галіны з усіх рэгіёнаў краіны сабраліся, каб сустрэцца з калегамі, абмяняцца думкамі, падзяліцца планамі. А яшчэ — пачуць словы падзякі ў свой адрас, што і стала галоўнай «падзеяй» імпрэзы. Пранікнёных слоў прагучала багата. І як ніколі багата яны падмацоўваліся ўзнагародамі.

Культура ў Беларусі — найважнейшы рухавік сацыяльнага прагрэсу, трывалы падмурак ідэалогіі і маралі краіны. Гэтыя словы з віншавання, якое даслаў работнікам культуры з нагоды свята Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, дакладна акрэсліваюць месца і значэнне галіны ў грамадстве. Як падкрэсліў міністр культуры Барыс Святлоў, для правядзення ўрачыстасці тэатр імя Янкі Купалы быў абраны невыпадкова. Гэта флагман беларускага тэатральнага мастацтва, а ўвод у эксплуатацыю яго будынка — адна з найболей значных падзей года, якая адлюстроўвае сучасныя тэндэнцыі развіцця культуры ў краіне.

Падчас урачыстай цырымоніі амаль 90 лепшых прадстаўнікоў сферы культуры атрымалі ганаровыя граматы, падзякі, нагрудныя знакі. Большасць з іх — ад «роднага» міністэрства — былі ўручаны яго кіраўніком Барысам Святловым. Значны «пакет» узнагарод — ад Адміністрацыі Прэзідэнта, Савета Міністраў, Нацыянальнага сходу, галіновага прафсаюза. З прачулымі і шчырымі віншаваннямі звярнуліся да віноўнікаў урачыстасці намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Валерый Міцкевіч, старшыня Цэнтральнага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў культуры Наталля Аўдзеева. Рэфрэнам гучалі словы пра тое, што падтрымка культуры і яе дзеячаў з боку дзяржавы будзе ўзрастаць: іх поспехі — адзін з бясспрэчных паказчыкаў высокага ўзроўню развіцця краіны.

Прыемным сюрпрызам стала другая частка ўрачыстага вечара. Гасцям прапанавалі спектакль «Ноч перад Калядамі». Пастаноўка славутага гогалеўскага твора «па-купалаўску» пераўзышла ўсе чаканні. На тое і флагман!

**Інеса ПЕТРУСЕВІЧ**

# Размова ў Доме афіцэраў

У Цэнтральным Доме афіцэраў Узброеных Сіл Беларусі адбыўся круглы стол на тэму «Усенародная барацьба супраць фашысцкіх акупантаў у творах беларускіх пісьменнікаў». Мерапрыемства было арганізавана сумесна Міністэрствам абароны і Саюзам пісьменнікаў Беларусі і прысвячалася 70-годдзю вызвалення нашай краіны. У ім узялі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства абароны, пісьменнікі, журналісты, работнікі Цэнтральнай бібліятэкі ЦДА, члены літаратурнага аб'яднання «Доблесць».

Адбыўся шырокі абмен думкамі на вельмі важную тэму літаратурнага і грамадскага жыцця. З цікавымі прамовамі выступілі начальнік Упраўлення інфармацыі, прэс-сакратар Упраўлення ідэалагічнай работы Міністэрства абароны палкоўнік Уладзімір Макараў, першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў, кандыдат філалагічных навук Уладзімір Навумовіч, пісьменнікі-ветэраны Вялікай Айчыннай вайны Алесь Савіцкі і Мікалай Іваноў, старшыня сталічнай пісьменніцкай арганізацыі Міхась Пазнякоў, галоўны рэдактар часопіса «Новая Немига литературная» Анатоль Аўруцін, дырэктар радыё «Беларусь» Навум Гальпяровіч, дактары філалагічных навук Іван Саверчанка і Іван Чарота. Былі вызначаны агульныя задачы ваенна-патрыятычнага зместу для вырашэння ў бліжэйшы час і на перспектыву.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Студыі, клубы, гасцёўні

Ужо не першы год Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі стварае пры ўстановах культуры і адукацыі горада студыі юных літаратараў, літаратурныя клубы і літаратурныя гасцёўні, арганізоўвае і накіроўвае іх работу. Вось і нядаўна распачалі сваю дзейнасць яшчэ адзін літаратурны клуб пры гімназіі № 20 і новая літаратурная гасцёўня пры гімназіі-каледжы імя І. Ахрэмчыка.

Першымі ганаровымі гасцямі наваствораных клуба і гасцёўні былі вядомыя пісьменнікі Міхась Пазнякоў і Віктар Шніп, якія расказалі пра літаратурнае жыццё, літаратурна-мастацкія выданні, працу Саюза пісьменнікаў Беларусі і выдавецтва «Мастацкая літаратура», прачыталі свае вершы, адказалі на шматлікія пытанні, пакінулі аўтографы на кніжках. Мерапрыемствы тут плануецца праводзіць штомесяц. Юныя аматары мастацкага слова змогуць не толькі сустрэцца з вядучымі творцамі, але і атрымаць кваліфікаваную параду, узяць удзел у творчых конкурсах, гарадскіх літаратурных святах і фестывалях.

**Павел КУЗЬМІЧ**



Фота Кастуся Дробава

*Выступае Таццяна Грахоўская.*

# Замест кропкі

15 кастрычніка на сцяне дома № 47 па праспекце Незалежнасці з'явілася мемарыяльная дошка ў гонар паэта Сяргея Грахоўскага. У будынку, дзе сёння месціцца галерэя сучаснага мастацтва, Сяргей Іванавіч пражыў 44 гады.

На ўрачыстым адкрыцці галоўным прамоўцам была дачка паэта Таццяна Грахоўская.

— Бацька любіў гэты дом, сваю кватэру, любіў самое месца. Ён вельмі любіў гэты горад, шмат пісаў пра яго, — распавяла Таццяна Сяргееўна. Калі я звярталася ў Мінгарвыканкам па дазвол на размяшчэнне мемарыяльнай дошкі, то звярнула ўвагу на тое, што тут — ад плошчы Якуба Коласа і да дома Купалы за плошчай Перамогі — сапраўдны літаратурны квартал. Праз два дамы жыў Адам Русак, там жа — Бялевіч і Хведаровіч, непадалёк — Астрэйка… І паўсюль мемарыяльныя дошкі. Ёсць надзея, што школьнікі ці студэнты, якія іх бачаць, звернуць увагу на імя, можа, ім незнаёмае, а потым зацікавяцца творамі.

Стварыў мемарыяльную дошку у памяць Сяргея Грахоўскага Павел Лука. Сям'я пісьменніка, якая выдаткавала сродкі на яе, засталася задаволеная. Дарэчы, гэта ўжо чацвёртая праца, звязаная з імем Грахоўскага: раней скульптар выканаў барэльеф, які знаходзіцца ў Глуску, на радзіме паэта, надмагілле і бюст.

Падчас адкрыцця слова бралі мастак Вячаслаў Захарынскі, літаратуразнаўца Лідзія Савік, паэтэса Раіса Баравікова, актрыса Галіна Дзягілева.

Да святочнай даты — 100-годдзя з дня нарадзін Сяргея Грахоўскага — было шмат публікацый у перыёдыцы, перадач на радыё і тэлебачанні, праведзена два літаратурныя вечары… На думку Таццяны Грахоўскай, адкрыццё мемарыяльнай дошкі стала кропкай ва ўшанаванні памяці творцы. Тым не менш не хацелася б ставіць кропак, калі справа датычыць памяці...

**Анастасія ГРЫШЧУК**

*Стасункі*

# Хоць мы з табою розных моў…

У Нацыянальным Саюзе пісьменнікаў Украіны адбылася прэзентацыя кнігі Выдавецкага дома «Звязда» «Гарнуся душою да слова». Ніна Мацяш — яркая зорка беларускай паэзіі. І цяпер, пасля таго, як пайшла з жыцця зямнога, яна застаецца ў сэрцах сваіх сяброў і чытачоў. У Выдавецкім доме «Звязда» дзякуючы намаганням руплівых і ашчадных ахоўнікаў спадчыны паэтэсы, навукоўцаў філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта і Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага пабачыла свет кніга перакладаў Ніны Мацяш з украінскай мовы — «Гарнуся душою да слова». Укладальнікі — М. Новік, С. Варонік, Г. Скарына. Прадмову да зборніка напісала Марыя Новік. «Ніна Мацяш — перакладчык-сутворца — была і застаецца паслом беларускага слова ў дарагой ёй Украіне, — піша даследчыца творчасці нашай суайчынніцы. — Дарагімі былі стасункі з Маяй Львовіч — самабытнай паэткай і перакладчыцай. Верш Маі Львовіч «Пераклад», пераствораны Нінай Мацяш на беларускую мову, адкрывае тое агульнае, што яднае іх у поглядах на пераклад. У гэтым творы зліваюцца галасы дзвюх сутворцаў: «Хоць мы з табою — розных моў, / твой верш азвацца раптам змог / Маёй і радасцю, й журбой, / маёй мелодыяй жывой».

А нядаўна ў будынку Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў Украіны ў Кіеве прайшла прэзентацыя гэтага сапраўды анталагічнага выдання. Пра творчае шматаблічча Ніны Мацяш, яе любоў да ўкраінскай паэзіі гаварылі ўкраінскія і беларускія пісьменнікі. Сярод удзельнікаў прэзентацыі былі і студэнты філалагічнага факультэта Кіеўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, якія вывучаюць беларускую мову і літаратуру.

— Ніна Мацяш добра вядомая ва Украіне, — зазначыў на прэзентацыі празаік, перакладчык, публіцыст Станіслаў Бандарэнка. — Як і яе пераклад гістарычнага рамана ў вершах Ліны Кастэнка «Маруся Чурай». Сама Ліна Васілеўна неаднойчы высока адгукалася пра беларускае перапрацаванне гэтага важнага для нацыянальнай самасвядомасці ўкраінцаў твора. Ва Украіне пішуць песні на словы Ніны Мацяш. Яе вершы перакладаюцца на ўкраінскую мову. І мне падаецца, што спадчына выдатнай беларускай паэтэсы яшчэ неаднойчы будзе запатрабавана ўкраінскімі чытачамі.

Галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Алесь Бадак распавёў, як ішла работа над кнігай. Расказаў украінскім сябрам пра ўшанаванне памяці перакладчыцы і паэтэсы на Берасцейшчыне. Нагадаў літаратар, што ў Выдавецкім доме «Звязда» і раней друкаваліся творы Ніны Мацяш. У прыватнасці, некалькі гадоў таму пабачыла свет кніга арыгінальных вершаў і перакладаў «У прыгаршчах ветру». А днямі выйшаў з друку кастрычніцкі нумар часопіса «Маладосць», дзе змешчана трапяткое, шчырае, вельмі сімвалічнае па сваёй душэўнасці эсэ Анатоля Крэйдзіча пра ліставанне з паэтэсай.

Пра беларуска-ўкраінскія шляхі літаратурнай дружбы ў апошнія гады вёў гаворку старшыня творчага саюза празаік Віктар Баранаў. У прэзентацыі ўзяў удзел адказны сакратар Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў Украіны Валадымір Барна. Яго вершамі таксама была зацікаўленая Ніна Мацяш. Перакладала іх напрыканцы 1990-х, адкрыўшы творчасць украінскага сябра найперш па зборніку «Мелодыя срэбнай ночы». Запытаўся ў паэта пра важкасць для яго стасункаў з беларускім чытачом.

— Многія з украінцаў павінны быць удзячныя беларускім творцам, — пачуў у адказ. — Пераклады пашыраюць нашу прастору зносін з чытачом. Гэта цудоўна разумела і Ніна Мацяш, аднолькава ўважлівая да класікаў і сучаснікаў. І цяпер нам на дзіва ганарова прысутнічаць у адной беларускай кнізе поруч з Тарасам Шаўчэнкам, Лэсяй Украінкай, ды і нашай сучасніцай Лінай Кастэнка.

…Беларуска-ўкраінскія літаратурныя стасункі якраз мацаваліся і мацуюцца сіламі энтузіястаў. Такіх, як Ніна Мацяш, Вячаслаў Рагойша, Тацяна Кабржыцкая, Васіль Жуковіч… На сустрэчы ў Кіеве гаварылася пра вартасці рэгіянальных стасункаў паміж пісьменнікамі Украіны і Беларусі. Гэты кірунак развіваецца і на Берасцейшчыне дзякуючы стараннем Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

— Выданне ўкраінскай паэзіі ў беларускіх перакладах Ніны Мацяш, — зазначыла на прэзентацыі ў Кіеве празаік і перакладчыца Галіна Тарасюк, — уяўляецца мне ўражлівай падзеяй для развіцця нашага літаратурнага, творчага пабрацімства. Спадзяюся, што ў хуткім часе з'явяцца новыя кнігі беларускіх пісьменнікаў па-ўкраінску. Прыклад Ніны Мацяш не можа не натхняць!..

Падчас кіеўскай імпрэзы падумалася і вось пра што. Варта перавыдаць увогуле ўсе пераклады Ніны Мацяш — і з польскай, французскай паэзіі, прозы, драматургіі. Зробленае вялікім майстрам мастацкага слова ў гэтым кірунку ўражвае і таму заслугоўвае ўвагі наступнікаў.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Талент як спадчына

Свята кнігі, навукі і беларускага слова адбылося на філалагічным факультэце БДУ. З юбілеем віншавалі прафесара Тацціяну Шамякіну. У Кабінет-музей беларускай народнай культуры прыйшлі калегі, сябры, аспіранты і студэнты.

Дачка знакамітага пісьменніка, яна з маленства апынулася ў творчым асяроддзі, Андрэй Макаёнак быў яе хросным бацькам.

Першая творчая праца Шамякінай — пераклады твораў бацькі. Потым — даследаванні ў галіне міфалогіі. Разам з калектывам аднадумцаў шмат працавала над падручнікамі па беларускай літаратуры для старшых класаў. Некалькі з іх сталі свайго кшталту «бестселерамі». Апошнім часам вядзе актыўную асветніцкую дзейнасць, выступаючы як публіцыст. Найбольш надзённае для юбіляркі — падрыхтоўка Поўнага збору твораў Івана Шамякіна ў 26 тамах, 13 з якіх ужо пабачыла свет.

Наконт пераемнасці пакаленняў у творчых сем'ях слушна выказаўся прафесар Вячаслаў Рагойша: «Івану Пятровічу пашанцавала, што яго дзеці сталі філолагамі. Але ён і сам паўплываў на іх. Выходзіць, пісьменніку трэба клапаціцца і пра тое, хто ўрэшце апынецца сам-насам з яго літаратурнай спадчынай».

Ужо працяглы час Тацціяна Шамякіна — загадчык кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ. Той самай, легендарнай, дзе працавалі Міхась Ларчанка, Іван Навуменка, Алесь Адамовіч, Алег Лойка… Пра Шамякіну-кіраўніка кажуць: «Чалавек, які не падаўляе сваім аўтарытэтам, але на якога заўсёды хочацца раўняцца». Чалавек, асоба і справы якога насамрэч годныя, каб кафедру неафіцыйна называлі яго імем.

**Тацціяна СТУДЗЕНКА**

# Армані і Гучы «прыехалі» ў Мінск

Нацыянальная бібліятэка здзіўляе. Гэтым разам у яе «суровых» сценах змясцілася выстаўка, якую вы ніяк не чакалі ўбачыць у царстве кніг — «100 гадоў італьянскай моды: абутак і сумкі». Выстаўку падрыхтавалі Пасольства Італьянскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь і ўласна Нацыянальная бібліятэка.

У галерэі «Атрыум» на трэцім паверсе выстаўлена самая вялікая калекцыя аксесуараў мінулай эпохі самых вядомых прадстаўнікоў італьянскай моды і стылю. Экспазіцыю з рарытэтных рэчаў у Мінск прывёз італьянскі калекцыянер, дырэктар фонду «Мастацтва Сартырыны» Джорджыа Форні. Ён прадставіў аматарам моды калекцыі сусветна вядомых італьянскіх брэндаў: Прада, Дольчэ&Габана, Армані, Версачэ, Гучы і інш. Цягам многіх гадоў Джорджыа Форні збірае па ўсім свеце рэчы, што належалі знакамітасцям. Так, сярод экспанатаў вы можаце ўбачыць белы заплечнік сэра Элтана Джона, расшыты цукерачкамі, абутак Джуліі Робертс і Мадонны, а таксама сумачку Жаклін Кенэдзі. Ёсць і іншыя цікавыя экземпляры, але іх лепей бачыць на ўласныя вочы, каб спазнаць усю магутнасць дызайнерскай думкі.

— Рады бачыць вас у гэтым касмічным караблі, што прызямліўся сярод лясоў і палёў, — вітаў наведвальнікаў сіньорэ Джорджыа. — Мушу сказаць, што першыя рэчы для будучай калекцыі я атрымаў ад сяброўак маёй жонкі. Пасля ўжо стаў набываць рэчы на аўкцыёнах, так, напрыклад, і трапілі да мяне сумкі амерыканскай актрысы Вайноны Райдэр.

Але ўзнікае пытанне: якім чынам такая выстаўка трапіла ў Нацыянальную бібліятэку? Высветлілася, што гэта ідэя яе дырэктара, Рамана Матульскага.

— Наўрад ці тэма італьянскай моды можа пакінуць хоць каго абыякавым, нават людзей з пячаткаю бюракратызму, такіх, як я. Справа ў тым, што ўлетку, падчас канферэнцыі міжнароднай асацыяцыі бібліятэк у Мілане, я шмат шпацыраваў па горадзе. Стаяла страшная спякота, таму час ад часу заходзіў у дарагія буцікі, бо там лепшыя кандыцыянеры. Так і адбылося маё знаёмства з італьянскай модай. Гэта — творы мастацтва. Спадзяюся, што выстаўка не толькі зацікавіць, але і натхніць беларускіх дызайнераў на творчыя подзвігі.



Выстаўка «100 гадоў італьянскай моды: абутак і сумкі» гастралюе па ўсім свеце. У нас яна затрымаецца да 23 кастрычніка.

Да гонару Нацыянальнай бібліятэкі, выстаўкай аксесуараў знаёмства з Італіяй не абмяжавалася. Адкрылася некалькі кніжных паліц з 70 ілюстраванымі выданнямі. Калі прачытаць іх, можна смела сцвярджаць, што ведаеш Італію. Кнігі падабраны выдатна: сярод іх — фотаальбомы; падарожныя даведнікі; альбомы па італьянскім мастацтве і кнігі, прысвечаныя геніям жывапісу; выданні па гісторыі Італіі, яе кухні і вінаробстве; і, натуральна, кнігі пра мадэльераў. Акрамя таго, у кніжную экспазіцыю ўвайшлі выбраныя выпускі часопіса *Italia*.

**Анастасія ГРЫШЧУК,**
**фота прадастаўлена Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі**

# Пасол беларускай культуры



Нямала сумных вестак прыходзіла сёлета. І вось яшчэ адна – на 84-м годзе жыцця памёр Норберт Рандаў.

Так павялося, што беларуская літаратура для еўрапейскага чытача працягвае заставацца загадкавай выспай, не раўнуючы *Ultima Thule*, куды дабіраецца далёка не кожны падарожнік. Што ж чакае гэтага падарожніка? Адкрыццё.

Норберт Рандаў таксама адкрыў гэтую выспу нечакана. Вятры з Беларусі пачалі пранікаць у берлінскую кватэру вучонага, калі з ягонаю сястрою Гундулай ажаніўся беларускі літаратуразнаўца Уладзімір Чапега. Хоць да таго былі гады навучання ў Берлінскім універсітэце, штудыі ў Сафіі, вывучэнне балгарскай мовы і літаратуры, праца дыпламатычным перакладчыкам. І здавалася, што менавіта балгарыстыка стане галоўнай справай яго жыцця.

Мажліва, якраз праз балгарскі досвед Норберту Рандаў было прасцей зразумець беларусаў. Дапамог у гэтым і кірылічны алфавіт.

Рандаў быў адным з найбольш актыўных папулярызатараў беларускай літаратуры ў Германіі. Ён адкрыў для нямецкага чытача і беларускую класіку — Янку Купалу, Якуба Коласа, Алеся Гаруна, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага — і новыя для таго часу творы Васіля Быкава: аповесці «Абеліск», «Здрада», «Аблава» (перакладзены разам з Гундулай і Уладзімірам Чапегамі). Менавіта дзякуючы сям'і Рандаў-Чапегаў яшчэ ў савецкі час на нямецкай мове з'явіліся дзве анталогіі беларускага апавядання, кніга Якуба Коласа «Казкі жыцця», зборнік паэзіі Алеся Разанава «Знакі вертыкальнага часу». Дзякуючы сваёй увазе да беларускай літаратуры Норберт Рандаў набыў сярод нашых пісьменнікаў добрых сяброў — Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава. Наогул, эпісталярый Рандаў калі-небудзь стане важнай крыніцай па гісторыі беларускай літаратуры 2-й паловы ХХ стагоддзя.

Працягваліся беларускія штудыі Рандаў і ў нядаўні час, калі ён працаваў кансультантам цэнтра моўнай падрыхтоўкі Міністэрства замежных спраў Германіі і запрашаным прафесарам у Берлінскім універсітэце. У 2003 годзе яму ўдалося адшукаць у фондах Верхнялужыцкай навуковай бібліятэкі ў Гёрліцы невядомы да таго часу канвалют з пражскімі выданнямі Францішка Скарыны.

Уладальнік балгарскага ордэна «Стара Планіна» (2001), нямецкага ордэна «За заслугі перад Федэратыўнай Рэспублікай Германія» (2008), лаўрэат Лейпцыгскай кніжнай прэміі за еўрапейскае паразуменне (2001), ён да апошняга часу падтрымліваў сувязі з беларускімі літаратарамі, марыў выдаць свой пераклад аповесці Максіма Гарэцкага «Дзве душы».

Смуткуючы разам з роднымі і блізкімі Норберта Рандаў і аддаючы яму належную пашану, выказваем спадзяванне, што мара перакладчыка здзейсніцца.

*Абрысы*

Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі прапануе шэраг цікавых імпрэз. Заўтра пройдзе творчая сустрэча з выхаванцамі Дзіцячага дома № 7. На нядзелю запланаваны «круглы стол» у Доме літаратара на тэму «Духоўна-маральныя асновы сямейных каштоўнасцей», а ў дзіцячай бібліятэцы № 15 адбудзецца пасяджэнне студыі «Малінаўскія галасы». 22 кастрычніка аматараў паэзіі запросяць у Цэнтральную гарадскую бібліятэку імя Янкі Купалы на XIII Мінскія паэтычныя чытанні. Пройдуць таксама прэзентацыя кнігі «Пошук рук над Басфорам», канцэрт духоўнай паэзіі і музыкі.

Творчая сустрэча «Адкуль панёс я песню ў свет сваю…» навучэнцаў СШ № 7 і Ліцэя г. Барысава з празаікам Васілём Гігевічам адбылася ў гарадской бібліятэцы № 7 ДУК «Цэнтральная раённая бібліятэка імя І. Х. Каладзеева». Шмат гадоў В. Гігевіч працуе ў жанры фантастыкі. Бібліятэкар Наталля Захаранка пазнаёміла прысутных з тэндэнцыямі развіцця фантастычнай літаратуры і прадставіла новую кнігу пісьменніка «Крах цывілізацыі».

Музейны комплекс «Дудуткі» арганізаваў прэзентацыю зборніка матэрыялаў канферэнцыі «Ельскія чытанні». У гэтым годзе тэмай канферэнцыі стала «Шляхецкая культура Беларусі XIX — пачатку ХХ ст.». Прадстаўленне выдання пройдзе заўтра на тэрыторыі «Дудутак». Падчас прэзентацыі чакаецца выступленне аўтараў артыкулаў, а пры канцы імпрэзы — канцэрт камернага трыа «Вытокі», у выкананні якога прагучыць музыка не толькі сям'і Ельскіх, але і іншых шляхецкіх родаў тагачаснай Беларусі.

# Забыццю не падлягае

**Здаецца, ніколі падобнага жадання пасля прачытання нейкага твора ў мяне не было. Загорнута апошняя старонка, а рука міжволі цягнецца, каб разгарнуць кнігу зноў. Ды не з пачатку, што ў падобных выпадках апраўдана, і не дзе-небудзь з сярэдзіны, каб адшукаць эпізод, які асабліва ўразіў, а з самага канца.**




Пасля знаёмства з раманам «Аперацыя «Кроў»» Мікалая Чаргінца, які асобнай кнігай выпусціла выдавецтва «Мастацкая літаратура», з'яўляецца менавіта такое жаданне перачытаць апошнія радкі: «Иногда, когда бываешь в Хатыни, можно наблюдать редкую картину: от группы туристов из Германии нет-нет да и отделится кто-либо из мужчин. Он становится на колени и кается за свои грехи. Кто знает, может, в его жилах течёт кровь наших детей. Помнят ли это немцы? Мы-то помним…»

Радкі гэтыя — сам боль. Ён да таго спрасаваны, што, здаецца, працінае ўсяго цябе наскрозь, і нікуды ад яго не дзецца. Дый ніякія, нават самыя сучасныя, лекі не могуць зняць яго. Аднак радкі гэтыя — і сама памяць, таксама шчыльна спрасаваная. І ёсць упэўненасць, што нашы нашчадкі не забудуць і пра гэтую бязвінную кроў дзяцей, і пра саму Вялікую Айчынную вайну — вайну, што вялася не на жыццё, а на смерць з самай страшнай на зямлі пошасцю — фашызмам.

У гэтым пераконвае раман М. Чаргінца «Аперацыя «Кроў»». Не прачытаць яго недаравальна, бо ў гэтым творы — тая частка праўды пра вайну, якая да апошняга часу ва ўсёй сваёй бязлітаснай паўнаце па розных прычынах не ўзнаўлялася. А яшчэ, што таксама немалаважна, аўтар твора вядзе ўнутраную палеміку з тымі, хто, паддаўшыся «модзе», спрабуе прынізіць уклад савецкага народа ў разгром нямецкага фашызму.

З такімі «шкадавальнікамі» пашанцавала і гаўляйтару Беларусі Кубэ. Пачытаеш асобныя публікацыі — і здаецца, што ледзь не ягнём быў. І мову беларускую прапагандаваў, і тэатры адкрываў, і газеты выдаваў, і… Вось гэтае «і», якое яскрава раскрывае сапраўднае нутро фашыста-«лібералa» падчас адной з нарад, калі Кубэ прапанаваў арыгінальнае вырашэнне яўрэйскага пытання: «— Господа, у нас есть ещё возможность улучшить результаты уничтожения этих нелюдей. Надо вселить в головы прибывшим из Германии евреям, что у них есть хороший шанс после нашей победы вернуться на родину. Но чтобы это заслужить, им следует присоединиться к уничтожению белорусских и привезённых из других стран евреев. Например, в домах тех, кто направляется на работу, остаются старики, дети. У немецких евреев есть шанс обнаружить ценности и оплатить оккупационным властям контрибуцию. Не стесняйтесь, Готтенбах (начальнік Мінскага гета — **Д. В.**), создавать внутренние отряды полиции из числа баварских, гамбургских, бременских отрядов. Пусть думают, что они сражаются за свою жизнь. Поверьте, они постараются». І стараліся, забіваючы сваіх суайчыннікаў, будучы ўпэўненыя, што іх потым адправяць дамоў, а «посадили их всех в три эшелона, вывезли в сторону Барановичей, высадили на трёх полустанках и — в лес. А там уже вырытые траншеи и пулемёты с автоматами».

Гэта — толькі адна са старонак праўды вайны. Поруч жа іншыя, якія не ў меншай ступені ўражваюць сваёй агаленай бескампраміснасцю, жаданнем дайсці да ісціны, зрабіць усё магчымае, каб не проста ніхто не быў забыты, але каб нават той, хто гатовы засумнявацца ў падобнай праўдзе, зразумеў, што рабіць гэтага ні ў якім разе нельга. Нельга, бо злачынна. Гэтую праўду падсілкоўвае і тая ж кроў бязвінных дзяцей: беларускіх, рускіх, яўрэйскіх. Фашысцкія нелюдзі на тэрыторыі Беларусі, як вядома, стварылі 260 лагераў смерці, у тым ліку і сем лагераў для дзяцей, якія станавіліся донарамі крыві для параненых нямецкіх афіцэраў і салдат. Гэтыя хлопчыкі і дзяўчынкі, за рэдкім выключэннем, паміралі, бо часта ў іх забіралі ўсю кроў, без астатку. Вакол аднаго з такіх дзіцячых канцлагераў, што знаходзіўся ў вёсцы Сёмкава пад Мінскам, і разгортваецца дзеянне.

> *У гэтым творы — тая частка праўды пра вайну, якая да апошняга часу ва ўсёй сваёй бязлітаснай паўнаце па розных прычынах не ўзнаўлялася. А яшчэ, што таксама немалаважна, аўтар твора вядзе ўнутраную палеміку з тымі, хто, паддаўшыся «модзе», спрабуе прынізіць уклад савецкага народа ў разгром нямецкага фашызму.*

Істотны і такі момант. Калі пра іншыя дзіцячыя канцлагеры пісалася шмат, асабліва пра тыя, якія знаходзіліся на тэрыторыі Гомельскай вобласці — у пасёлку Парычы і ў вучэбнай гаспадарцы «Чырвоны Бераг», — дык пра Сёмкава згадвалася неяк мімаходзь. М. Чаргінец першым прыўзняў заслону забыцця, і зрабіў гэта дзякуючы архіўным дакументам, што трапілі ў яго рукі. Сярод іх аказаліся і тыя, якія датычылі куды даўнейшай гісторыі Сёмкава, калі яго тагачасны ўладальнік у XVIII стагоддзі стварыў тут цудоўны палацава-паркавы комплекс. Перад вайной у яго будынках знаходзіўся інтэрнат для дзяцей, які фашысты і ператварылі ў лагер смерці.

> *Істотны і такі момант. Калі пра іншыя дзіцячыя канцлагеры пісалася шмат, асабліва пра тыя, якія знаходзіліся на тэрыторыі Гомельскай вобласці — у пасёлку Парычы і ў вучэбнай гаспадарцы «Чырвоны Бераг», — дык пра Сёмкава згадвалася неяк мімаходзь. М. Чаргінец першым прыўзняў заслону забыцця, і зрабіў гэта дзякуючы архіўным дакументам, што трапілі ў яго рукі.*

Мікалай Чаргінец, дарэчы, падрабязна расказвае пра тое, як выглядаў гэты палацава-паркавы комплекс. Гэтаксама падрабязна гаворыцца і пра яго ўладальнікаў. Падобныя звесткі не выглядаюць нечым такім, што знаходзіцца ўбаку ад асноўных сюжэтных ліній. Наадварот, усё гэта арганічна ўпісваецца ў канву рамана. Ведаючы, што было ў Сёмкаве калісь і што стала, калі прыйшлі тыя, хто наводзіў «новы парадак», яшчэ больш пранікаешся ўсведамленнем, якое страшнае зло фашызм. Як і страшныя носьбіты гэтай тэорыі, а не ў меншай ступені і іх памагатыя.

Пісьменнік паказвае здраднікаў свайго народа, у якіх не засталося нічога святога за душой. У такой ганебнай кагорце і дырэктар інтэрната нехта Вайтовіч. Дзіву даешся, як гэта да вайны даручылі яму гэткую адказную пасаду, бо Вайтовіч належыць да тых, для каго жорсткасць і гвалт — звычайная з'ява.

«Аперацыя «Кроў»» — не толькі назва рамана. Гэта рэальная назва аперацыі партызанскага камандавання сумесна са штабам партызанскага руху ў Маскве па вызваленні юных нявольнікаў з лагера смерці. Безумоўна, ажыццяўленне яе патрабавала нямала высілкаў, паколькі ўсё неабходна было правесці так, каб дзеці не пацярпелі, засталіся жывымі. Таму і рыхтаваліся скрупулёзна, улічваючы найменшыя дробязі. Асаблівая роля пры гэтым адводзілася савецкай разведчыцы, якая выступала пад імем Ганны Фішэр, законнай уладальніцы Сёмкава. Усё было зроблена так, што ніхто і не западозрыў, кім яна з'яўляецца на самай справе. Нават маёр СС Вільгельм Мойрын. Дый як было яму засумнявацца ў чым-небудзь, калі патэлефанавалі наконт прыбыцця гэтай самай Фішэр з рэйхскамісарыята «Остланд», што знаходзіўся ў Рызе. А тут яшчэ і павышэнне яго ў воінскім званні, пра што Мойрын марыў даўно, як высветлілася, адбылося не без гэтай былой гаспадыні Сёмкава.

Расказваючы пра ўсё гэта, М. Чаргінец праўдзіва паказвае, як упэўнена працавалі ў гады вайны савецкія спецслужбы. Сюжэтная лінія, звязаная з Ганнай Фішэр і аперацыяй «Кроў», разгортваецца дынамічна, напружана, у чым, несумненна, праяўляецца добрае веданне М. Чаргінцом законаў прыгодніцкага жанру. Аднак пры гэтым ён застаецца псіхолагам, для якога важна глыбока, лагічна апраўдана паказаць, што і як адбываецца. Іначай кажучы, той жа дынамізм, прыгодніцкія элементы, пэўная сюжэтная займальнасць ні ў якім разе не шкодзяць усебаковаму спасціжэнню характару чалавека ў надзвычайных абставінах.

Раман «Аперацыя "Кроў"» не толькі пра лёс дзяцей-ахвяр фашысцкага рэжыму. Ён таксама і пра мінскіх яўрэяў, якія засталіся ў акупіраваным горадзе. Як ставіліся да іх гітлераўцы, добра відаць ужо з прыведзенага вышэй распараджэння гаўляйтара Кубэ. Былі гэткія кубэ і меншага рангу, ды не меншыя антысеміты. Страшна і тое, што здраднікі знаходзіліся сярод саміх яўрэяў.

Але ў большасці былі тыя, хто не скарыўся ворагу. Нават трапіўшы ў гета, не зламаліся. Многія і многія з іх, на жаль, загінулі. Ды яны не заплямілі сваё добрае імя. Гэта відаць і на прыкладзе дзвюх сем'яў — Левіных і Рабіновічаў, пра лёс якіх пісьменнік расказвае асабліва падрабязна, стварыўшы, у прыватнасці, цікавы вобраз шаснаццацігадовага Абрама Рабіновіча. Юнак знайшоў у сабе сілы ўзняцца над абставінамі, адпомсціць фашыстам.

Эпізод, звязаны з пакараннем гэтага юнага героя, здзіўляе псіхалагічнай напоўненасцю. Абрам гіне, але гэта толькі фізічная смерць, тую справу, за якую ён змагаўся, падхоплівалі суайчыннікі.

У рамане створана цэлая галерэя запамінальных вобразаў. Напрыклад, сярод іх даволі арыгінальны Леанід Цвяткоў, які не ад добрага жыцця стаў фашысцкім прыслугачом, а пасля адумаўся, наладзіў сувязь з падпольшчыкамі. Гэты вобраз цікавы тым, што паказана яго развіццё.

Раман «Аперацыя "Кроў"» — новае слова пра Вялікую Айчынную вайну. І не толькі ў творчасці М. Чаргінца, але і ва ўсёй беларускай літаратуры. Таму хацелася б, каб да гэтага твора звярнуліся кінематаграфісты. Мастацкі фільм «Аперацыя "Кроў"» (ці пад нейкай іншай назвай) выклікаў бы ў гледача вялікую цікавасць.

**Дзяніс ВЕТЧАНКА**

# Нарэшце без купюр




*Сяргей Грахоўскі: вядомы і невядомы / уклад. Т. С. Грахоўская. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2013.*

Хто калі ведаў, дзе край нягод, а дзе пачынаецца сапраўднае шчасце? Напэўна, толькі той, хто прайшоў праз самае пекла, разумее кошт чалавечага жыцця. Яскравы прыклад — Сяргей Грахоўскі. На жаль, пісьменніка ўжо няма з намі, але творы захоўваюць яго філасофскі, адметны погляд на свет.

Вядома, што не ўсё і не заўсёды можна было казаць уголас. І нават паперы не ўсё можна было даверыць. Але да 100-гадовага юбілею пісьменніка выйшла кніга «Сяргей Грахоўскі: вядомы і невядомы», у якой паэзія і эсэістыка аўтара пададзены без купюр. У першай частцы прадстаўлена дзевяць эсэістычных твораў, кожны з іх мае свайго героя — асобу, чыё імя вартае памяці і ўшанавання. Гэта не проста сяброўскія ўспаміны, але і адлюстраванне вельмі складанага, акрутнага, крывавага часу. Знакамітыя «чорныя варанкі», турмы, допыты, ГУЛАГ, лесапавал — гэта тое, што ўжо знаёма нам з твораў Аляксандра Салжаніцына. Але тут нашы, беларускія, рэаліі і наша, беларуская, інтэлігенцыя. Пакаленню канца ХХ — пачатку ХХІ стагоддзя асабліва цяжка ўявіць, як па загадзе аднаго ўпаўнаважанага знішчаецца жыццё і дабрабыт мноства людзей.

Другую частку складаюць успаміны сяброў і дачкі паэта — людзей, якія ведалі яго ўзлёты і падзенні, бачылі, як нават сам з сабою чалавек змагаецца за сваё шчасце. Тым і каштоўныя для нас гэтыя згадкі. Іх мэта — паказаць, якім паэт быў у прыватным жыцці, распавесці тое, што сам ён не паспеў. Вядома, найбольш яскравыя, падрабязныя ўспаміны дачкі — самага блізкага чалавека.

Элегія Сяргея Грахоўскага «Мястэчка, мястэчка…» і малавядомая паэзія — у апошняй частцы кнігі. Элегія прысвечана малой радзіме паэта — Глуску. Але ў творы не толькі мястэчка, якім запомніў яго хлапчук, а яшчэ і адлюстраванне гісторыі ХХ стагоддзя. Кампазіцыя элегіі не лінейная. Паміж падрыхтоўкаю да Каляд, бясконцай штодзённай працай, вясёлым адпачынкам моладзі ўплятаюцца чорныя палосы калектывізацыі, раскулачвання, забароны рэлігіі. Часы рознаўладдзя, школьная прапагандысцкая гісторыя, якая пачыналася Парыжскай Камунай і заканчвалася Кастрычніцкай рэвалюцыяй, — так паступова складваецца мазаіка жыцця. Паэзія Грахоўскага шматгранная: недзе яна гучна абвінавачвае, недзе ціха нагадвае.

Кніга «Сяргей Грахоўскі: вядомы і невядомы» адрасаваная шырокаму колу чытачоў, але найперш хочацца прапанаваць яе моладзі. Бо менавіта маладыя людзі могуць знайсці тут прыклады для пераймання і багата гістарычных звестак, якія раней былі ім невядомыя.

**Вікторыя ТРЫПУЦІНА**

# Выхоўваць патрыётаў. Разам!

Адной з асноўных у беларускай дзіцячай літаратуры многія дзесяцігоддзі была тэма Вялікай Айчыннай вайны, гераізму, мужнасці савецкага народа ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Ля вытокаў беларускай ваенна-патрыятычнай дзіцячай літаратуры стаялі нашы класікі: Якуб Колас, Янка Купала, Міхась Лынькоў… Эстафету годна падхапілі знакамітыя пісьменнікі-ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны Максім Танк, Янка Брыль, Аляксей Кулакоўскі, Аляксей Пысін, Алесь Якімовіч, Алесь Махнач, Васіль Хомчанка, Артур Вольскі, Алесь Савіцкі, Георгій Шыловіч, Хведар Жычка…

Адметна ўзбагацілі беларускую ваенна-патрыятычную дзіцячую літаратуру і вядомыя пісьменнікі-дзеці вайны: Анатоль Грачанікаў, Барыс Сачанка, Юрась Свірка, Даір Слаўковіч, Валянцін Лукша, Уладзімір Карызна, Яўген Каршукоў, Уладзімір Паўлаў, Ніна Галіноўская, Мікола Маляўка, Уладзімір Скарынкін, Мікола Чарняўскі… Выдавецтва «Чатыры чвэрці» (дырэктар — член СПБ Ліліяна Анцух) выпускае спецыяльную кніжную серыю «Дзеці вайны», што ў нашы дні з'яўляецца выдатным прыкладам увагі да ваенна-патрыятычнай тэматыкі.

Звяртаемся, хоць і менш актыўна, да ваенна-патрыятычнай тэматыкі і мы, маладзейшыя пісьменнікі, дзеці і ўнукі франтавікоў, партызанаў і падпольшчыкаў. Між тым, у гэтым ёсць вялікая патрэба. І мы маем што сказаць пра той вогненны час і яго герояў.

У 1948 г. выйшла ўнікальная кніга «Ніколі не забудзем» — зборнік успамінаў дзяцей — удзельнікаў і сведкаў вайны. Яна перакладзена на многія мовы свету і неаднаразова перавыдавалася. Гэта кніга (па сабе ведаю) унесла і ўносіць важкі ўклад у патрыятычнае выхаванне юных грамадзян краіны. Трэба ўсё зрабіць, каб і сёння яе чыталі. Асабліва павялічыўся выпуск ваенна-патрыятычнай літаратуры для дзяцей пасля стварэння ў 1981 г. спецыялізаванага выдавецтва «Юнацтва». Выходзіла 25 — 30 назваў штогод. Папулярнасцю ў 1980 — 90-я




гады карысталіся зборнікі нарысаў і апавяданняў пра юных герояў Вялікай Айчыннай вайны, піянераў і камсамольцаў, падпольшчыкаў і партызан. Такія кнігі выдаваліся кожны год і вялікімі тыражамі як на беларускай, так і рускай мове. Сёння, на вялікі жаль, яны зніклі з планаў. Сітуацыю варта выпраўляць.

У ліку першых мастацкіх твораў пра вайну былі апавяданні Янкі Маўра, Аркадзя Чарнышэвіча, Івана Грамовіча, Янкі Зазекі, аповесці Алеся Якімовіча «Помста», Паўла Кавалёва «Андрэйка», Івана Сіўцова «Самыя юныя», паэма Эдзі Агняцвет «Песня пра піянерскі сцяг», «Будзем сябраваць», Кастуся Кірэенкі «Алёнчына школа», Міхася Калачынскага «Насустрач жыццю», Антона Бялевіча «Ідзі, мой сын», аповесці Галіны Васілеўскай «Маланка ўначы», «Малюнак на снезе», Алены Кобец-Філімонавай «Жаваранкі над Хатынню», Даіра Слаўковіча «Я вярнуся, мама».




Таленавіта спалучана драматычнае і гумарыстычнае ў аповесцях Івана Сяркова «Мы з Санькам у тыле ворага», «Мы — хлопцы жывучыя», «Мы з Санькам — артылерысты». Элементы казкі ўдала выкарыстаны ў аповесці пра вайну Леаніда Прокшы «Прыгоды хлопчыка Бульбінкі». Свой падыход да паказу гераічных і трагічных падзей вайны знайшлі Яўген Курто, Яўген Каршукоў, Алесь Асіпенка, Мікола Гамолка і інш. Тэмы вайны і міру скрыжаваны ў аповесцях Георгія Шыловіча «Школа ля крэпасці», Уладзіслава Нядзведскага «Хлопцы з другога корпуса», Алеся Пальчэўскага «Данеўцы — нашы знаёмыя»…

Выдатны раман «Обаль» пра беларускіх маладагвардзейцаў стварыў Алесь Савіцкі.

На вялікі жаль, пасля развалу СССР у выніку дэідэалагізацыі, дэгераізацыі ваенна-патрыятычная літаратура доўгі час была рэдкасцю ў выдавецкіх планах з-за нізкага попыту. Часцей за ўсё яна выходзіла і выходзіць дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністэрства абароны, пры фінансаванні з боку Міністэрства інфармацыі. У наш час наспела патрэба ў перавыданні лепшых твораў мастацкай, дакументальна-мастацкай і дакументальнай ваенна-патрыятычнай літаратуры для дзяцей. Каб выхаваць сапраўдных патрыётаў, такая літаратура вельмі неабходная!

У нас зусім мала твораў для дзяцей пра беларускую армію, пра армейскую службу ў мірны час. Мы больш увагі ўдзяляем ваенна-патрыятычнай літаратуры для дарослых. І гэта добра! Але варта з дзіцячага сада, са школьных гадоў пачынаць выхоўваць патрыётаў Беларусі, прывіваць любоў да Радзімы, да арміі, да нашай слаўнай гісторыі. Значыць, патрэбна ствараць новыя, сучасныя творы для самых маленькіх чытачоў. Нядаўна я ўклаў калектыўны зборнік вершаў сучасных беларускіх паэтаў пра службу на дзяржаўнай мяжы, звязаўся з Дзяржкамітэтам пагранвойск, які аказаў падтрымку. Выдавецтва «Чатыры чвэрці» неўзабаве выдасць кнігу.

Задумаў стварыць такі ж зборнік вершаў для малодшага школьнага ўзросту — пра нашу Радзіму, вайсковую службу, мужнасць. Задача няпростая, бо твораў мала, патрэбна пісаць. А тое, што пачынаць выхаванне патрыятызму патрэбна з ранняга дзяцінства, зразумела кожнаму.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ,**
**старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, член Праўлення Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі**

# Настальгія па Снягурцы

Літаратура для дзяцей, як ніякая іншая, мае свайго чытача, пазначанага канкрэтным узростам. Калі ўтрыраваць, то для тых, каму 3+, будзе дарэчы, напрыклад, «Калабок», які не мае шанцаў быць прачытаным (у сваёй класічнай версіі) тым, каму за дванаццаць. І, наадварот, «Гары Потэр» наўрад ці прыйдзецца даспадобы дзеткам дашкольнага ўзросту. Такім чынам, кожны тэкст дзіцячай літаратуры звычайна мае вельмі лакальнае прызначэнне. Пісаць для ўзросту ад 3 да 16 тут складана. А вось уяўляць свайго чытача — маленькага наведвальніка дзіцячага садка альбо школьніка-пяцікласніка, — наадварот, будзе вельмі дарэчы.

Зборнік прозы «Закаханы ў Снягурку» пабудаваны безадносна прызначэння для пэўнай аўдыторыі. У аснове структуравання кнігі знаходзіцца хрэстаматыйны прынцып: сюды ўваходзяць тэксты розных аўтараў, напісаныя як для школьнікаў, так і для падлеткаў (творы для апошніх перавexamples жаюць). Ёсць нават тэкст, які паўнавартасна зможа ўспрыняць выключна чалавек са свядомасцю дарослага. Гэта невымоўна цудоўная мініяцюра Л. Сільновай «Котка, якая выйшла з кніжкі». Тэкст імпрэсіяністычны, лёгкі, ён нібы знаходзіцца па-за неабходнасцю лагічнага спасціжэння, прывабны і цікавы сам па сабе.

Часам зборнік пачынае ствараць уражанне літаратурнага папуры на тэму дзяцінства і класічных праблем сталення. Аднак яно знікае, калі кніга прачытана цалкам. Толькі тады прыходзіць разуменне, што «Закаханы ў Снягурку» — гэта творы, прызначаныя не толькі дзецям, але і нам, дарослым.

Класічная дзіцячая літаратура — гэта літаратура дыдактычная. Апавяданні зборніка могуць навучыць дзяцей простым і важным рэчам: аддаваць перавагу духоўнаму перад матэрыяльным, рабіць выбар, быць верным сяброўству і каханню, ведаць сваю гісторыю і любіць радзіму, быць шчаслівым у дробязях.

Асноўную частку кнігі складаюць класічныя апавяданні для дзяцей і падлеткаў. Яны вучаць любіць, разумець прыроду і жывёльны свет (А. Масла «Туга па людзях», «Варона», Р. Бензярук «Ціміч»), быць уважлівымі да ўнутранага свету іншых людзей (А. Масла «Расказ дарослага чалавека»), берагчы першае каханне (В. Гапееў «Качаняты», Р. Бензярук «Пра галінку, што стукае ў акно») і інш. Тэксты дапамагаюць дзецям засвоіць комплекс традыцыйных маральнаэтычных каштоўнасцей. На гэтым сучасная дзіцячая проза працягвае рабіць выразны акцэнт. І ў дадзеным выпадку ўстаноўка беларускай літаратуры на патрыярхальнасць з'яўляецца апраўданай.

Ёсць у зборніку і твор на бяспройгрышную тэму падлеткавай жорсткасці — апавяданне В. Гапеева «Галка». Унутраны свет героіні адлюстраваны псіхалагічна тонка. Галя, якую ўсе ў вёсцы называюць Галкай, — дзяўчына з няпростым лёсам і комплексам брыдкага качаняці — аднойчы заўважыла сваю прыгажосць і паспрабавала стаць лебедзем. Адказ свету быў жорсткі — смех, пагарда, нянавісць. Аднак дзяўчына з годнасцю пераадольвае чарговае выпрабаванне, паказваючы тым самым сваю сапраўдную ўнутраную прыгажосць. Твор дае магчымасць убачыць суадносіны ўнутранага і знешняга, калектыўнага і індывідуальнага, добрага і жорсткага, а таксама зразумець, што ў жыцці многае неадназначна.

Прыйдзецца даспадобы падлеткам, якія схільныя да рамантызму, апавяданне




М. Аляшкевіч «Вятрыха». Гэта рамантычна-казачная гісторыя пра чалавека, які вырабляе паветраных змеяў, рэгулярна губляе капелюшы і бязмежна кахае сваю жонку. Яна, у сваю чаргу, займаецца творчай прафесіяй — вырабляе модныя галаўныя ўборы і прадае іх ва ўласнай майстэрні. Герой апавядання — класічны дзівак, з якім пастаянна здараюцца непрыемныя неспадзяванкі. Напрыклад, ён губляе кашалёк, а з ім не толькі грошы, але і план перайначыць жыццё, над якім сядзеў не адну ноч. Страта матэрыяльнага прыводзіць Мацвея Іванавіча ў роспач, аднак толькі часова, бо ў яго ёсць сапраўднае — дом і жонка, якая пакахала яго без грошай, зямлі для дома і білетаў на оперу. У творы вельмі шмат добрай фантазіі: змеі Мацвея Іванавіча Хрушча могуць быць сытымі, галоднымі, вегетарыянцамі, аматарамі селядца і салодкаежкамі з імбірнымі хвастамі, яны свавольныя, іх трэба вучыць лётаць. Апавяданне нараджае адчуванне лёгкасці быцця, якая сімвалічна прадстаўлена праз вобразы паветраных змеяў.

Асобна варта сказаць пра тэкст А. Мальчэўскай «Ша-Ша з левага чаравіка», які цікавы дзеткам праз незвычайны казачны вобраз Ша-Ша, а дарослым — праз сэнс. Казка нагадвае сур'ёзным людзям пра тое, як гэта файна — быць шчаслівым у дробязях: у тым, каб боўтаць нагамі, седзячы на буфеце, рабіць зайцоў з пальчаткі альбо проста спяваць у лесвічны пралёт. Пра тое, што гэтыя абсалютна, на першы погляд, непрактычныя навыкі павышаюць узровень эндарфіну ў арганізме ў некалькі разоў і дадаюць жыццю новых шчаслівых фарбаў.

Апавяданне, якое дало назву кнізе, — адно з лепшых. Яно закрывае зборнік, таму з'яўляецца яркім і вельмі запамінальным штрыхом рознакаляровага малюнка. Тэкст «Закаханы ў Снягурку» напісаны В. Шніпам — аўтарам, які дасканала валодае стылем класічнага пісьма, што выразна прасочваецца ў творы. Апавяданне здольна выклікаць настальгічнае адчуванне дзяцінства, такой добрай юначай няўрымслівасці, якая ёсць толькі ў гэтым узросце. Яно шматузроўневае, бо адначасова перадае як хлапчукову эмацыянальнасць, так і настраёвасць дарослага, пяцідзесяцігадовага мужчыны. Прычым, зроблена гэта ўсяго ў некалькіх радках, надзвычай тонкіх і запамінальных. Не кожны школьнік здольны будзе адчуць і зразумець гэтую настальгію па першым каханні, а вось дарослага чалавека створаны вобраз абавязкова кране. І гэтым каштоўны зборнік — тым, што ў ім шмат дэталяў, актуальных для нас — тых, хто калісьці даўно быў маленькім хлопчыкам ці дзяўчынкай.

**Алена МІКУС**

## Васіль МАКАРЭВІЧ



Нядаўна быў уручаны дыплом першай ступені і статуэтка «Залаты Купідон» пераможцу рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «Лепшы твор 2012 года» ў галіне паэзіі Васілю Макарэвічу за кнігу паэзіі «Неба ў руках». Думаецца, чытачам цікава будзе пазнаёміцца з вершамі паэта розных гадоў, якія нідзе не друкаваліся.

### * * *

**Міколу Мятліцкаму**

*Дзённыя справы агораўшы,*
*Ў руках перабраўшы да каліўца,*
*Ах, як з гісторыяй хораша*
*Ўдваіх пасядзець на завалінцы!*

*Вакол цішыня, як на клірасе,*
*У світачцы лёгкай, не гаматнай.*
*Туман тут паслаўся папірусам,*
*А там раскруціўся пергаментам.*

*Дажджамі не раз перамытае, —*
*Зірнеш: ну хіба не ідылія? —*
*Стагоддзе ўстае пірамідаю,*
*Пажарная вышка — бадылінай.*

*Не хочацца верыць, што спадчына*
*І стронцыем скрозь, і палоніем,*
*З маленствам і казкаю бабчынай,*
*З канца ды ў канец запалонены.*

*Гаркота з жыццём перамешана,*
*Хаця на вішняк і на парасткі*
*Нябёсы сыпнуць па-ранейшаму*
*Град, як пярсцёнкі з напарсткамі.*

*А час — ён ідзе і не скончыцца*
*Над ціхай Дзвіной і над Пінаю.*
*А кожнаму грэшнаму хочацца*
*Стаць летапісцам Піменам.*

## Трыпціх

**I**

*Я знаю — хвілінай пагоднаю,*
*У дымнай паўдзённай смузе,*
*Гісторыя век наш пагойдвае,*
*Бы ўнука, на правай назе.*

*А ён не клянецца ў вернасці,*
*Грыміць сёння тут, заўтра там.*
*Нікому і троху не верыцца,*
*Што ў будучым стане тытан.*

**II**

*Ідзе за зменай змена ўслед,*
*Што не паспееш і з фантазіяй!*
*Направа — свет, налева — свет,*
*А мы — сярод Еўропы з Азіяй.*

*А мы сярод завей, снягоў,*
*Падзей з грамамі перуновымі.*
*А ў вечнасці — ні берагоў,*
*Ні дна, ні вузкае прамоіны.*

**III**

*А дзівіцца свет-харашун*
*Старонкай нашаю, удаліцай,*
*Як прыгажуняй з прыгажунь,*
*І заадно яшчэ — выданніцай.*

*Хоць мае ўдосталь і грахоў*
*Тых, у якіх зусім не каяцца.*
*Ды жаніхоў — з усіх шляхоў,*
*Што безупынку заляцаюцца!*

### * * *

*Ну хто наплёў,*
*Што быў я душагуб*
*І не зрабіўся лепшым ані каліўца?!*
*Ты, птушаня, з маіх напіся губ —*
*Наўрад ці будзеш шкадаваць*
*І каяцца!*

*Калі з агнём*
*Паўзла гарачыня,*
*Валіла ўпокат травы падупалыя,*
*Мяне самога, быццам птушаня,*
*Дзяржава з губ паіла*
*Ды адпайвала.*

*Я сам тады,*
*Бы жаўра малады,*
*Ушыркі крылы развінуў па-новаму.*
*Не раз і заставаўся ледзь жывы,*
*Калі з бакоў бядоты*
*Апаноўвалі.*

*Ні веснавой,*
*Ні летняю парой*
*У лесе, што суседнічаў наводдалі,*
*Ніводнага гняздоўя не спароў,*
*Сям'іскі не пакрыўдзіў*
*Аніводнае.*

*Плыла вясна,*
*Сплывала на плытах*
*Пявучай развітальнаю канцонаю.*
*І сам я жыў, як пералётны птах,*
*Чужой бядой і горам*
*Акальцованы.*

*Я той,*
*Вы разумееце, я той,*
*Каму даўно абрыдлі дэкарацыі,*
*Хто ходзіць па дарогах пехатой,*
*Калі крылом да неба*
*Дакранаецца.*

*Спакой мой*
*І, вядома, неспакой*
*Глухою цішынёю зашпаклёваны.*
*І, з выраю чакаючы шпакоў,*
*Як трызніў я прасторнаю*
*Шпакоўняю!*

*Я ведаўся*
*З адвечнай мерзлатой,*
*Што разляглася за паўночнай брамаю.*
*Але не знаўся з клеткай залатой*
*І з небам, што было ў пруты*
*Забранае.*

*Не помню я,*
*Часінаю якой,*
*Бядою біты, маразамі печаны,*
*Для птушак стаўся блізкім сваяком,*
*З натурай жаўра і душою*
*Пеўчаю.*

*І хіба сам*
*Не смагнуў так, як смаг*
*Той смагаю, падобнаю да полымя,*
*Што ўтаймаваць не мог і мудры маг*
*Ані святой малітвай,*
*Ні напоямі.*

*Ніколі*
*Не хадзіў я напралом,*
*Не клаў паклоны і не кляўся ў вернасці.*
*Але аб неба ўдару зноў крылом, —*
*Няўжо мой голас песняю*
*Не вернецца?*

*Пакуль стаіць*
*Начная цішыня*
*Над гаем — салаўінаю імперыяй,*
*Ты з губ маіх напіся, птушаня,*
*Каб акрыяць і зноў крыляць*
*Апэрана!*

### ***

*Святою нядзелькай,*
*Пужаючы цішу,*
*Сарока-зладзейка,*
*Чаго верашчыш?*

*Відно, дзеля здзеку*
*Дзяўбеш ты скавыш.*
*А ну, дабрадзейка,*
*З-пад вокнаў акыш!*

### ***

*Плыве ніжэй травы, былля,*
*Ідзе пакорна, як на повадзе.*
*Яе спытаць бы — ці была*
*Яна з малітваю на споведзі?*

*Не лезла пад плаціну, ў схоў,*
*Сто раз бядой апаясаная.*
*Хаця ў вады штогод грахоў*
*Бывае па завязку самую!*



Фота Кастуся Дробава

## На хутары

*На хутарышчы*
*Немы сойчын крык*
*Ды грыва быльнягу ўстае бунтоўная.*
*Бы ў ледалом, наводдаль столькі крыг,*
*І ўсе яны, да аднае, —*
*Бетонныя.*

*Драч рэжа слых*
*Ну проста без нажа,*
*Нібыта ўчора недзе чорт засіліўся.*
*Няўжо тут катлаван з-пад сенажа,*
*А можа, з-пад кампосту*
*А ці сіласу?*

*Згадае ўмомант*
*Скрыўлены штыкет,*
*Калі тугую памяць раскатурхае, —*
*Сядзеў у шахтах вывадак ракет,*
*І — кожная разгневанай*
*Квактухаю.*

*Каб Млечны Шлях*
*Вядзьмак не абакраў, —*
*Радары, хоць крыху і віславухія,*
*Нячутна узламіўшы небакрай,*
*Над натаўскім Бруселем*
*Неба слухалі.*

*Занёсшы дзесь*
*Над галавою дрын*
*Кукардаў хіжых з выпраўкай парадную,*
*Вышэй быў хутар ад усіх дактрын,*
*Дыпламатычных нот*
*І мемарандумаў.*

*З падсочкай бор*
*Стаіць, як эрмітаж,*
*Дзе сосны — у жывіцы, быццам статуі.*
*Прайшоў узбор'ем пільна дэмантаж,*
*Ракеты выдраў з шахтаў*
*Да астатняе.*

*І ціш маўчыць*
*Азерцам сярод дня,*
*Ніхто яе не кратае да прысмеркаў.*
*Дымок курыцца, цягнецца са дна*
*З тратылавым, крыху гарэлым,*
*Прысмакам.*

### ***

*Ёсць мовы на свеце гартанныя,*
*Суровай*
*адрывістай*
*выкрайкі.*
*Гавораць,*
*бы крыгі гартаюцца,*
*І чуюцца вокрыкі-выкрыкі.*

*А родная мова — пявучая,*
*Хоць чуецца цэканне, дзэканне.*
*Адмалку яна не прывучана*
*Да немага гвалту са здзекамі.*

### ***

*Кроны, спелай аскомай набухлыя,*
*Так падобны здалёк да гандол!*
*Чуеш, яблыкі ў садзе забухалі*
*Кулакамі цяжкімі аб дол.*

*Не, не восеньскіх дзён каранацыя!*
*Толькі вокны ў сусвет адчыні,*
*Як пабачыш у небе крэмацыю*
*Зоркі першае велічыні.*

# Святлана ДЗЯНІСАВА

*Апавяданні*



## «Акцябрскія»

Кніжка Міхася Стральцова з апавяданнем «Смаленне вепрука» ляжыць ля канапы, на пляскатай спіне вялізнага плюшавага сабакі, якому, напэўна, да самага зносу футра наканавана прытрымліваць дзверы ў пакой. Каб не зачыняліся, бо яны маюць такую звычку.

Гэтую кніжку з вокладкай колеру забеленай кавы і нібыта шакаладнымі літарамі я ўзяла з шафы, каб перачытаць колькі старонак нанач. Пачала чытаць — і не змагла не прыпыніцца на месцы, дзе гаворыцца пра «насталы звон калодзежнага вядра». Я зноў пачула яго, гэты звон. На свае вушы пачула, быццам сама зараз не на канапе, а на вуліцы. У марозны дзень, ля старога калодзежа. І якраз у той самы момант, калі дзед, накруціўшы на калаўрот ланцуг, выцягвае прышчэпленае да яго вядро, цяжкае, у аковах, і са звонам ставіць яго на вялізны гладкі камень. Каб, пераняўшы руку, пераліць ваду ў сваё, лёгкае. Як грукаціць цяжкае вядро па халодным камені, як пераліваецца, пырскамі трапляючы на снег, ледзяная вада, — вось што я пачула ў цішыні амаль што ночы. І панесліся думкі ў мінулае.

Вось ідзём мы з дзедам па вуліцы. Ля брамкі трэба прыпыніцца — паглядзець пошту. Так, нешта ёсць. Прыйшлі дзве паштоўкі з віншаваннямі. Прыемна будзе перадаць іх бабулі. Заўтра ж «акцябрскія». У такую пару ў вёсцы ледзь не кожны стараецца заколоць кабанчыка.

Дзед ставіць вёдры з вадой на лаву ў кухні. У печы весела гарыць агонь. Дровы складзены ў ім пірамідкай. Многа дроў — многа попелу. Цікава выграбаць яго з печы шуфлікам на доўгай ручцы. Але зараз бабуля паставіць у гэты жар патэльню для бліноў. І будзем з дзедам снедаць. Падсмажаная да ружовай скарынкі яечня і чырвоныя ад жару наздраватыя бліны. А заўтра ўжо можна будзе смажыць і сала, і нават каўбасу. Адным словам, свежыну. Але папярэдне бабуля зоймецца ночвамі. Трэба, каб драўляныя ночвы былі гатовыя адразу, яшчэ з вечара, бо раніцай за ўсё не ўхопішся. Дзед ужо зняў ночвы з гарышча, унёс у хату, трэба толькі трохі паскрэбці іх нажом і абліць кіпнем. Гэтыя драўляныя ночвы — найпершая прыкмета хуткай свежыны. У ночвах мужчыны будуць уносіць у хату паляндвіцы, сала, вантробы і іншыя пакуль не апетытныя, але ў бліжэйшым часе нават і вельмі смачныя кавалкі мяса. Першнаперш гаспадыня памерае сала. Як заўсёды, пальцамі. І зазначыць, якая праразь — ці свежына мясная, ці дастаткова мяккая? Саліць сала лепш потым, у апошнюю чаргу, калі ўжо і каўбасы будуць вісець каля печы на шастку, і рэбры пасякуць, і вантрабянка зварыцца. Бо трэба, каб сала паспела, добра астыўшы. Таму яно будзе ляжаць у сенцах да наступнага дня. Увогуле, закалоць кабанчыка — гэта працы на некалькі дзён. Перш трэба ўсё перамыць, падрыхтаваць кішкі, парэзаць на каўбасы і перакруціць мяса, потым пасаліць яго, дадаць падсушаных і молатых прыпраў — лаўровага лісту, кмену і каляндры, а таксама здробненага часнаку. Але і тады каўбасы ніхто не будзе рабіць адразу. Спачатку бабка кіне на патэльню вялікую груду фаршу і падсмажыць яго. Камяк сам разаб'ецца на патэльні. Мужчыны, якія памагалі дзеду разбіраць кабана, сядуць за стол, каб разам з падсмажаным салам, мясам, а мо яшчэ і пячонкай паспытаць і гэты фарш. Сядуць, пакрэктваючы. Дзед — першы. Будзе дазнавацца, чаму дагэтуль яшчэ не нарэзалі хлеба: што рабілі? Бабка лагодна паставіць на стол пляшку.

— Святланка, палічы, колькі чаравек, паглядзі чаркі.

Хлеб прынясе з маленькай кухні любімая нявестка Любачка — мая мама.

Мужчыны возьмуць па чарцы, кожны глыне сваю кроплю адным махам. Хлеб найперш спатрэбіцца, каб «занюхаць». Цікава назіраць за тым, як мужчыны, пракаўтнуўшы гарэлку, крывяцца, пырхаюць, гучна выдыхаючы, і падносяць да носа скібачку хлеба. Пад'еўшы і не пахваліўшы фарш — солі мала, а мо добра, а ці не, лепш яшчэ трохі падсыпаць — яны пойдуць, хто дадому, а хто, як мой тата і дзядзька Саша з дзядзькам Жорам, дараблядь свежыну, бо трэба ж яшчэ са свінымі нагамі і галавізнай разабрацца. Мы, дзеці, будзем іх перадражніваць — каўтаць з чарачак ваду і занюхваць, як стары дзядзька Віця Верабей, бо ён робіць гэта самым адмысловым чынам. А тым часам вантробы ўжо варацца. Трэба будзе парэзаць іх на дробныя кубічкі, перамяшаць, пасаліць і запхнуць у памыты страўнік кабанчыка. Потым бабка возьме тоўстую нітку з іголкай-шаршаткай ды зашые гэты страўнік. Укіне яго ў выварку — няхай на агні пакіпіць вантрабянка, ці, як некаторыя казалі, сальцісон. Не люблю гэтае мудрагелістае слова, мне лепш вантрабянка. Трохі пакіпіць, потым яе дастануць і пакладуць пад гнёт, каб не рассыпалася, і атрымаецца прыгожы, на разрэзе як быццам мазаіка, пачастунак. Добра будзе есці вантрабянку з чорным хлебам. І хопіць яе на некалькі дзён. Яшчэ і памагатым перападзе, кожнаму, разам з кавалкам сала і колцам каўбаскі. Бо нам таксама тыдзень таму давалі такі ж пачастунак, калі дзед памагаў рабіць свежыну суседзям ці аднавяскоўцам-сваякам. Было смачненька. Але хацелася свайго, зробленага мамай і бабуляй.

Я ведаю, што не тое пішу. Адчуваю, што не атрымліваецца пісаць тое, дзеля чаго распачала пісанне. Каўбасы на жэрдачцы, вантрабянка ў эмаліраванай місе з ружовымі кветкамі, вышчарбленыя драўляныя ночвы, дзе ляжаць пасечаныя рэбры і паляндвіца, прысыпаныя каляндрай — не тое гэта. Гэта проста ў памяці. Але хочацца, так балюча хочацца не ўспамінаў, а тых адчуванняў, якія агортвалі мяне, малую, тады. Як чула грукат клямкі, калі дзед уносіў у хату вядро вады ці тыя драўляныя ночвы, калі ўслед за шумам упаўзаў у хату з сянец холад — паўпразрысты, белы, без аніякага паху. Я ведаю, што гэта такое — калі, як у Стральцова, паветра нішчымнее. Так бывае з часу, калі становяцца ў хляве каровы, бо няма ўжо чаго ім ухапіць на пашы. Якраз у гэты час паштарка носіць па хатах віншаванні з «акцябрскімі». У гэты ж час па вёсцы то там, то сям свяжуюць кабанчыкаў. І доўжыцца гэта нядоўга — да першага птушынага спеву недзе адразу пасля Каляд. А пакуль паветра не мае паху. І мо таму так прыемна і ўтульна робіцца ад паху каляндры, тоўчанага часнаку і вантрабянкі. Мо таму нават і кабан, якому летам мы, малыя, з задавальненнем крышылі крапіву ў сячкарні, таўклі бульбу ў карыце, што стаяла звычайна пры плоце пад вішняй, збіралі апад у садзе, той кабан, з якога смяяліся, калі ён залазіў нагамі ў карыта з ежай, а потым, рохкаючы, падымаў галаву і з поўсці яго капала назад у карыта забеленая свежым малаком мешанка, той самы кабан, нагам якога мы дзівіліся, бо ці можа жывёліна яго камплекцыі хадзіць на такіх нязручных кароткіх нагах, — цяпер, лежачы дагары капыткамі, нікога не палохае. А якімі вочкамі ён пазіраў на нас, той кабан, калі мы цікавалі за ім праз шчылінку ў загарадцы. І вось цяпер гэты кабан стаў каўбасой і паляндвіцай. І няма аніякага па ім шкадавання. Наадварот, нейкім дзіўным спакоем напаўняецца душа пры назіранні за клопатамі па яго «перапрацоўцы». Гэта немагчыма патлумачыць. А мо і не трэба? Мо так і павінна быць? Мо гэта звычайная праява жыцця?

Вось ізноў быццам грукнула клямка. З сянец залецеў у пакой сіваваты холад. Прайшоўся па нагах і знікавеў ад цяпла ходнікаў. У холадзе гэтым адчуваецца голая настылая зямля і той самы калодзежны камень. Пройдзе колькі дзён, прасоліцца ў скрыні сала, падсохнуць каўбасы, падвяліцца паляндвіца, з'ядзена будзе вантрабянка — і ляжа на зямлю роўная коўдра снегу. Яна засцеле ганак раніцай і амаль адразу ўпрыгожыцца вялікімі дзедавымі слядамі. Потым па гэтай коўдры пройдзецца суседка — запытацца ў маёй бабкі Людмілы, ці добра зрабіла, што выпіла ад галавы цытрамону. І покуль бабка будзе даставаць з шуфляды лекі на свой немедыцынскі, але ўзбагачаны жыццёвым досведам густ, прасыплецца на ганак некалькі новых сняжынак. Або не прасыплецца.

Я ведаю, які дакладна колер мае пустое паветра. Яно блакітнае з бляскам — ад марознага снегу пад небам, якое паспела ўжо развітацца з сонцам, але зоркі яшчэ не запаліла. І на выгляд яно — як дзіцячая маляванка: вялікія гурбы снегу і нешматлікія хаты, стрэхі якіх утрымліваюць на сваіх пакатых баках тоўстыя снежныя коўдры. З-пад кожнай коўдры віецца ў неба слупок дыму, а да хат вядуць няроўныя сцежкі, пратаптаныя ўсе як адна ад калодзежа. Хаты здаюцца лупатымі, бо з агеньчыкамі. І яны адбіваюцца на блакітным снезе жоўтымі плямкамі. Адзін з такіх агеньчыкаў азначае, што ў кухні завіхаецца бабка Людміла: таўчэ звараную бульбу, прыпраўляе яе хрубусткімі скваркамі. І сварыцца на дзеда, што, не дачакаўшыся бульбянай кашы, нахапаўся паўсырой бульбы з падмарожаным салам. Зараз яна параіць унучцы закапаць прынесены з варыўні халодны салёны гурочак у гарачую кашу — каб і рот не апякла, і зубы не пазаходзіліся...

## Не той пашпарт

Маім першым працоўным месцам была стаматалагічная паліклініка на вуліцы Сухой. Старажылы згадвалі, што раней у Мінску не было вуліцы макрэйшай за Сухую. І сцвярджалі, што назву Сухая яна якраз і атрымала па прычыне бясконцай макраты. Але я не пра тое.

У паліклініцы я працавала медсястрой. Аднойчы летам мяне папрасілі на час водпуску падмяніць жанчыну ў рэгістратуры. Я згадзілася. На цэлы месяц мне свяціла нешта новае, а новае я заўсёды прымаю з радасцю.

Працаваць з людзьмі было прыемна. Кожны падыходзіць да акенца рэгістратара са сваёй скаргай — то на зуб, то на надвор'е, а то і на лёс. І калі слухаць уважліва, то можна дапамагчы чалавеку не толькі на прыём да ўрача трапіць, але і настрой палепшыць. Або яны табе настрой палепшаць — калі ў цябе штосьці не так.

У дзяцінстве я была дзікай. Не дзікаватай, а зусім дзікай. З малых гадоў баялася чужых людзей. І таму, калі пасля заканчэння медвучылішча раптам зразумела, што мне давядзецца сустракацца з імі кожны дзень, спалохалася не на жарт. Але я загнала свой страх недзе далёка ў сярэдзіну, загадаўшы яму сядзець ціхенька хаця б да першага працоўнага дня. І ён, здаецца, мяне паслухаў.

Ён увогуле аказаўся паслухмяным, бо мой першы працоўны дзень з вялікай колькасцю новых знаёмстваў прайшоў проста цудоўна. Галоўным яго здабыткам стала ўсведамленне таго, што размаўляць з чужымі людзьмі не страшна, што гэта цікава, нават прыемна. З таго дня я сустракала новага чалавека з задавальненнем — спачатку як чарговага збавіцеля ад рэшткаў пакутлівага пачуцця, потым – з глыбокай удзячнасцю за сябе іншую, лепшую, больш ветлівую і таму больш чулую, а значыць, больш карысную людзям.

Стаяў на дзіва халодны ліпень. Людзей было нямнога, яны не сунуліся чаргой, а падыходзілі паасобку. Я мела магчымасць яшчэ здалёк разглядзець кожнага.

Адчыніліся дзверы, увайшоў мужчына. Агледзеўшыся, паволі наблізіўся да акенца. «Людзі ў стаматалагічнай паліклініцы ніколі не адчуваюць сябе ўтульна, гэта зразумела», — падумалася мне.

— Добры дзень. Я першы раз тут. Як мне запісацца? — спытаў ён нізкім, трохі сіплаватым голасам.

—У вас ёсць пашпарт?

— Так.

— Давайце яго, калі ласка, сюды, я аформлю вам асабістую картку.

Картка стаматалагічнага здароўя, якую меў кожны пацыент паліклінікі, на першай старонцы павінна была змяшчаць інфармацыю пра месца жыхарства, прафесію, узрост і, вядома ж, там пазначаліся прозвішча, імя і імя па бацьку. Першай запаўнялася графа прапіскі. Я запісала вуліцу, нумар дома і нумар кватэры, а потым перагарнула старонку, каб паглядзець прозвішча, імя і імя па бацьку. І тут убачыла, што прозвішча ў пашпарце жаночае. І жаночае імя. Першае, што падумалася: мужчына прыхапіў жончын пашпарт замест свайго.

— Гэта не ваш пашпарт, — сказала я, падняўшы галаву.

— Як гэта не мой? — ажывіўся мужчына.

— Тут напісана: «Іванова Марыя Мікалаеўна».

Ці не «Іванова Марыя Мікалаеўна», а «Карасёва Ларыса Віктараўна», я, зразумела, не памятаю, ды гэта цяпер ужо і не важна.

— Дык што не так напісана? Гэта ж я.

Бываюць у жыцці хвіліны, калі хочацца адкруціць час назад. Але колькі потым ні разважала пра гэты выпадак, кожны раз вынік быў адзін: я не магла сказаць нешта іншае, я не магла не адзначыць, што трымаю ў руках не той пашпарт, у мяне не было ніводнай зачэпкі, каб, вярні я тую хвіліну, павесці сябе неяк інакш.

— Прабачце, — вымавіла. — Нешта я няўважлівая сёння.

Хутка запісаўшы ў картку астатнія звесткі, я прызначыла час лячэння і пажадала ўсяго найлепшага.

У постаці, што паволі аддалялася ад мяне, я са страхам шукала прыкметы жанчыны. Хада, вопратка, пастава... Шырокія штаны, куртка, кароткія сіваватыя валасы... У вушах яшчэ гучаў нізкі, трохі сіплаваты голас. Я ўжо не пыталася ў сябе, чаму я памылілася. Я дакарала сябе за іншае: навошта я так памылілася?!

# На карысць чалавецтва

## ПРА АЛЬФРЭДА НОБЕЛЯ І НОБЕЛЕЎСКУЮ ПРЭМІЮ

**21 кастрычніка сусветная грамадскасць адзначыць 180-годдзе з дня нараджэння Альфрэда Нобеля, фундатара славутай прэміі яго імя, якою больш як стагоддзе ўганароўваюцца выдатныя дасягненні ў навуцы і літаратуры.**



Нарадзіўся А. Нобель у Стакгольме. Яго продкі, першыя звесткі пра якіх сустракаюцца ў дакументах канца XVII ст., паходзілі з сялян. Бацька, Эмануэль Нобель, будаўнік і вынаходнік, пэўны час жыў у Расіі, працаваў на нафтапромыслах Баку. У шлюбе з Каралінай Андрыетай Алсель меў васьмёра дзяцей, пяцёра з якіх памерлі вельмі рана. Альфрэд ад нараджэння таксама не вызначаўся моцным здароўем.

У 1837 г. бацька пакідае сям'ю ў Швецыі, а сам дзеля ўмацавання матэрыяльнага становішча накіроўваецца спачатку ў Фінляндыю, пасля — у Санкт-Пецярбург. У 1842 г. сям'я ўз'ядналася ў Расіі, з дзевяцігадовым Альфрэдам пачаў займацца прыватны настаўнік. У 1850 — 1853 гг. юнак падарожнічае; каб паглыбіць веды па хіміі, ён робіць працяглы прыпынак у Парыжы, дзе слухае лекцыі знакамітых вучоных. Вярнуўшыся ў Пецярбург, Альфрэд пачынае кар'еру ў бацькавай кампаніі, што займалася вытворчасцю боепрыпасаў. Па заканчэнні Крымскай вайны прадпрыемства перайшло на вытворчасць камплектавальных для параходаў.

Фінансавы крызіс вымусіў закрыць кампанію, і сям'я Нобеляў перабралася на радзіму. Шмат часу Альфрэд прысвячае вынаходніцкай дзейнасці, атрымлівае шэраг патэнтаў у розных галінах механікі і хіміі. У 1863 г. ён вынаходзіць дэтанатар, з дапамогай якога можна было выкарыстоўваць нітрагліцэрыну ў якасці выбуховага рэчыва. Да ліку важных вынаходніцтваў А. Нобеля належаў гэтак званы выбуховы капсуль, што адыграў вялікую ролю ў далейшым выкарыстанні нітрагліцэрыны як выбуховага рэчыва, у вывучэнні ўласцівасцей іншых выбуховых матэрыялаў. У час аднаго з эксперыментаў загінула восем чалавек, сярод якіх быў і родны брат Альфрэда — 21-гадовы Эміль. Бацька ў выніку цяжкай псіхічнай траўмы быў паралізаваны.

З 1864 г. адкрыцці Нобеля выкарыстоўваюць для пракладкі чыгуначных тунэляў. Сам ён кіруе заснаванай ім кампаніяй па вытворчасці нітрагліцэрыны. У 1865 г. адкрыўся першы філіял прадпрыемства за мяжой — у Гамбургу, наступны пачаў дзейнічаць у ЗША. Выкарыстанне нітрагліцэрыны часта суправаджалася трагедыямі, у выніку адной з якіх гамбургскі завод быў цалкам знішчаны.

У настойлівых пошуках жаданай бяспекі пры рабоце з нітрагліцэрынай Альфрэд Нобель у 1867 г. робіць сваё галоўнае адкрыццё — дынаміт, ці, як тады яго называлі, «бяспечны выбуховы парашок Нобеля». Гэтаму вынаходніцтву ў вялікай ступені абавязаны сваім здзяйсненнем такія грандыёзныя праекты, як пракладка Альпійскага тунэля, Карынфскага канала ў Грэцыі, расчыстка рэчышча Дуная і многія іншыя. Нобель становіцца адным з найбагацейшых у свеце людзей, яго называюць «другім Ракфелерам». З часоў франка-прускай вайны дынаміт пачынаюць выкарыстоўваць і ў ваенных мэтах. Напрыканцы жыцця Нобеля ў свеце існавала 93 прадпрыемствы па вытворчасці разнастайных выбуховых рэчываў. Апошнія гады жыцця ён прысвяціў даследаванням па вытворчасці сінтэтычнага каўчуку і штучнага шоўку.

Альфрэд Нобель быў неардынарнай асобай. Выдатны вучоны-хімік, вынаходнік і бізнесмен, ён ведаў апроч шведскай многія іншыя еўрапейскія мовы — французскую, нямецкую, рускую, англійскую, — прычым валодаў імі бездакорна, нібы кожная з іх была яго роднай. Знаўца філасофіі і мастацтва, асабліва літаратуры (яго ўлюбёнцамі былі Гюго, Мапасан, Бальзак, Тургенеў, Байран), ён і сам не быў абдзелены літаратурным талентам, пісаў па-шведску і па-англійску, хаця, надзвычай да сябе патрабавальны, адважыўся апублікаваць толькі адзін уласны твор. Любіў Нобель падарожжы, якія дазвалялі знаёміцца з новымі культурамі, вылучаўся імкненнем да здаровага ладу жыцця. Мала хто з наймальнікаў клапаціўся пра дабрабыт сваіх рабочых і службоўцаў гэтак, як Нобель. Невыпадкова біёграфы часта згадваюць яго словы: «Людзі, якіх турбуе выключна выгада, наўрад ці заслугоўваюць павагі».

Між тым А. Нобель заставаўся, па сутнасці, адзінокім чалавекам. Сям'і, адданай спадарожніцы жыцця ён не займеў, хаця захапленні жанчынамі здараліся, і галоўным з іх стала дваццацігадовая жыхарка Вены Соф'я Хес. Прыгожая, непасрэдная, абаяльная, аднак цалкам прыземленая, біёграфы і па сёння здзіўляюцца, чым яна магла яго прывабіць. Тым не менш іх стасункі працягваліся доўга: у архівах Нобелеўскага фонду захоўваецца 216 лістоў А. Нобеля да Соф'і і каля 40 яе лістоў да яго.

Памёр Альфрэд Нобель ад інсульту 10 снежня 1896 г. У надтруннай прамове 17 снежня пастар Натан Сёдэрблум (пазней архіепіскап Швецыі) сказаў: «…выглядаючы ў грамадскай думцы знакамітым і заможным, ён мала цікавіў людзей проста як чалавек. Аднак не будзем пасля яго смерці паўтараць тую ж памылку, бо ў жыцці вечнае мы не зможам забраць з сабой ні нашай маёмасці, ні нашых дасягненняў і павінны будзем забыцца на наша зямное шчасце. А якраз гэткага шчасця… быў пазбаўлены наш памерлы брат, нягледзячы на ўсё сваё багацце і любоў калег». Пасля развітання труна з целам Альфрэда Нобеля была дастаўлена ў Стакгольм, дзе 29 снежня ў прысутнасці мноства суайчыннікаў і прадстаўнікоў замежных краін адбылася памінальная служба.

Адзін вялікі і відавочны парадокс суправаджаў усё жыццё А. Нобеля: вынаходнік дынаміту, ён верыў у магчымасць будучага гарманічнага суіснавання людзей, марыў «убачыць мірныя парасткі чырвонай ружы ў гэтым расколатым свеце». Невыпадкова ён завяшчаў прысуджаць прэміі не толькі за найвыдатнейшыя дасягненні ў навуцы і літаратуры, але і за міратворчую дзейнасць.

27 лістапада 1895 г. у Парыжы А. Нобель склаў завяшчанне, у якім, у прыватнасці, пісаў: «Увесь капітал павінен быць унесены маімі душапрыказчыкамі на надзейнае захоўванне пад паручальніцтва і скласці фонд; яго прызначэнне — штогадовае ўзнагароджанне грашовымі прызамі тых асоб, якія цягам папярэдняга года здолелі прынесці найбольшую карысць чалавецтву. Сказанае адносна прызначэння прадугледжвае, што прызавы фонд павінен дзяліцца на пяць роўных частак, якія прысуджаюцца наступным чынам: адна частка — асобе, якая зробіць найважнейшае адкрыццё ці вынаходніцтва ў галіне фізікі; другая — за найважнейшае ўдасканаленне або адкрыццё ў галіне хіміі; трэцяя — за найважнейшае адкрыццё ў галіне фізіялогіі або медыцыны; чацвёртая — за найвыдатнейшы твор ідэалістычнай скіраванасці ў галіне літаратуры; нарэшце, пятая частка — за найбольшы ўклад у справу ўмацавання садружнасці нацый…» У 1968 г. да пяці абумоўленых самім Нобелем прэмій была дададзена яшчэ адна — штогадовая прэмія па эканоміцы, ініцыятарам заснавання якой стаў Шведскі банк, гэткім чынам адзначыўшы сваё 300-годдзе.

Заснаванне фонду адбылося ў 1900 г., а першыя Нобелеўскія прэміі былі ўручаны ў 1901 г.

Шлях да здзяйснення задуманага А. Нобелем быў нялёгкім. Не абышлося без неразумення тых, на каго ўскладалася функцыя вызначаць лаўрэатаў з ліку мноства прэтэндэнтаў, і без нязгоды спадкаемцаў заснавальніка прэміі. Чатыры гады пайшло на судовыя працэсы. Урэшце выканаўцам волі Нобеля — Рагнару Сульману, Рудальфу Лілеквісту і іх адвакату Карлу Ліндхагену — праз неймаверныя высілкі ўдалося даказаць законнасць завяшчання. Са спадчыннікаў хутчэй за іншых адгукнуўся на волю Нобеля яго пляменнік Эмануэль, пазней ён нават спрыяў фонду ўласнай фінансавай падтрымкай.

Усе абавязкі па прысуджэнні Нобелеўскай прэміі згадзіліся ўскласці на сябе Шведская Каралеўская акадэмія навук, Каралеўскі Каралінскі медыцынскі інстытут, Шведская акадэмія літаратуры і спецыяльна ўтвораны пры Нарвежскім стортынгу (парламенце) у Осла камітэт (трэба мець на ўвазе, што падзеі адбываліся яшчэ да распаду шведска-нарвежскай уніі). Паводле статута, Нобелеўскі фонд з'яўляецца незалежнай няўрадавай арганізацыяй, у задачы якой уваходзяць забеспячэнне фінансавай асновы дзейнасці па ўзнагароджванні лаўрэатаў, абарона інтарэсаў вышэйназваных устаноў, а таксама падрыхтоўка і правядзенне штогадовай цырымоніі ўручэння прэмій. Пералічаныя ўстановы выбіраюць 15 апекуноў у апякунскую раду, якая, у сваю чаргу, вылучае сярод сяброў Рады дырэктараў Нобелеўскага фонду ў складзе 5 чалавек. Старшыня Рады і яго намеснік прызначаюцца самім каралём.

Штогод Нобелеўскі камітэт рассылае тысячы запрашэнняў (у тым ліку каля 500 датычных літаратуры) вядомым вучоным з просьбай выказаць сваё меркаванне наконт асоб, якія заслугоўваюць прэміі ў адпаведнай галіне. Што да прэміі па літаратуры, то падаць свае прапановы маюць права члены Шведскай, Французскай і Іспанскай акадэмій літаратуры, члены літаратурных секцый іншых акадэмій, прафесары эстэтыкі, літаратуры і гісторыі, нобелеўскія лаўрэаты па літаратуры, кіраўнікі пісьменніцкіх арганізацый. Што важна, ад асоб, якія не атрымалі запрашэння-анкеты, прапановы не прымаюцца. Звесткі пра кандыдатаў дасылаюцца ў Стакгольм да 1 лютага. У лютым — верасні эксперты вывучаюць прапанаваныя творы.

Варта сказаць, што напачатку нават самі члены Шведскай акадэміі сумняваліся, ці здольныя яны будуць кожны год аб'ектыўна ацэньваць усю сучасную сусветную літаратуру, каб спыніць свой выбар на адным творцы ды яшчэ супрацьстаяць непазбежным спробам ціску з боку зацікаўленых асоб і ўстаноў; апроч таго, ці не будуць Акадэміяй закінуты ўсе справы, апроч функцыі журы. Нарэшце прыйшлі да канчатковай высновы: «Не ведаючы найлепшых узораў сучаснай сусветнай літаратуры, ніякая Акадэмія не ў стане скласці ўяўлення пра літаратуру ўласнай краіны, і ўрэшце прэміі прызначаны людзям найвялікшага пісьменніцкага таленту, з творамі якіх Акадэміі не пашкодзіла б пазнаёміцца ў любым выпадку».

Нобель спецыяльна падкрэсліў у свой час: «Маё асаблівае жаданне заключаецца ў тым, каб на прысуджэнне прэміі не ўплывала нацыянальнасць кандыдата, каб прэміі атрымлівалі найбольш вартыя». Між тым, літаратурны твор павінен быць напісаны на шведскай, англійскай, нямецкай, французскай або іспанскай мове ці перакладзены на адну з іх, таму, відавочна, якасць перакладу адыгрывае выключна важную ролю.

У кастрычніку імёны абраных падаюцца на афіцыйнае зацвярджэнне. Паведамляецца пра новых лаўрэатаў, як правіла, у дзень нараджэння Нобеля — 21 кастрычніка, уручэнне ж прэмій традыцыйна адбываецца ў дзень яго смерці — 10 снежня. Цягам паўгода пасля гэтага лаўрэаты чытаюць у Стакгольме свае «нобелеўскія лекцыі».

Нобелеўскаму лаўрэату ўручаюцца залатыя медаль, дыплом і чэк на пэўную суму. Медаль лаўрэата ў галіне літаратуры мае дыяметр 65 мм і важыць 205 г, яго намінальны кошт — 2 тысячы долараў. На аверсе медаля — профіль Альфрэда Нобеля з датамі яго жыцця, на рэверсе — міфалагічная сцэнка і радок з шостай песні «Энеіды» Вергілія на лацінскай мове: «Адкрыццямі ў мастацтве ўпрыгожана жыццё». Аўтар медаля — шведскі гравёр і скульптар Эрык Ліндберг. Дыплом кожны раз афармляецца па-новаму, бо ён прызначаны адлюстраваць дух творчасці канкрэтнага пісьменніка. Часта ў малюнку выкарыстоўваюцца выявы кветак, асабліва руж, якія вельмі любіў А. Нобель. Розная кожны год і грашовая сума, якая залежыць ад прыбытку з абарачэння фондавага капіталу.

Звяртаюць на сябе ўвагу некаторыя адхіленні ад працэдуры прысуджэння прэмій, прадугледжанай самім Нобелем. Так, уганараванай можа быць праца не толькі мінулага года, але і папярэдніх, прычым дастаткова аддаленых, гадоў, калі яе значэнне сталася відавочным менавіта з цягам часу (як гэта было з раманамі Т. Мана «Будэнброкі» або Э. Канэці «Асляпленне»). Пісьменнік можа быць уганараваны і за сукупнасць твораў. Найчасцей прэмія прысуджаецца творцам сталага ўзросту, што таксама супярэчыць жаданню Нобеля падтрымліваць маладых таленавітых асоб. Невыпадкова Б. Шоу назваў Нобелеўскую прэмію выратавальным кругам, кінутым плыўцу, які ўжо выбраўся на бераг. Сапраўды, лаўрэатамі прэміі па літаратуры сталі, напрыклад, 83-гадовы Я. Сейферт, 87-гадовая Д. Лесінг і г. д. Сярэдні ўзрост лаўрэатаў складае 64 гады, хаця ёсць і выключэнні: Р. Кіплінг атрымаў прэмію ў 42 гады, А. Камю — у 44…

За 1901 — 2013 гг. Нобелеўскай прэміяй па літаратуры ўганараваны 110 чалавек. Сярод іх не толькі пісьменнікі, але і філосафы, гісторыкі, грамадска-палітычныя дзеячы, чые творы адметныя мастацкасцю мовы і глыбінёй ідэй. Не прысуджалася прэмія ў 1935 г. і ў асобныя гады Першай і Другой сусветных войнаў (1914, 1918; 1940 — 1943). Чатыры разы (у 1904, 1917, 1966 і 1974 гг.) прэмія ўручалася адразу двум пісьменнікам, бо абодва атрымлівалі аднолькавую колькасць галасоў. За час існавання прэміі яе лаўрэатамі сталі 13 жанчын. Два пісьменнікі ад прэміі адмовіліся: у 1958 г., пад ціскам улад, — Б. Пастарнак і ў 1964 г. — Ж. П. Сартр. Паводле статута і згодна з завяшчаннем А. Нобеля не ставіць помнікі нябожчыкам, а дапамагаць жывым творцам, прэмія не прысуджаецца памерлым пісьменнікам.

Адзначым, што не было амаль ніводнага года, калі б не выказваўся сумнеў у абгрунтаванасці чарговага рашэння Нобелеўскага камітэта. Насамрэч, не сталі лаўрэатамі творцы, пад знакам эстэтычных адкрыццяў якіх прайшло ўсё ХХ стагоддзе: Г. Ібсен, Дж. Джойс, Л. Талстой, М. Пруст, П. Валеры, Ф. Кафка, Г. Апалінэр і інш. Безумоўна, і пазней былі (і ёсць) вартыя прэміі пісьменнікі, сярод якіх могуць быць названыя і беларускія мастакі слова.

**Ева ЛЯВОНАВА**



# Уладзімір Гладкевіч: «Усе мы сядзім на плячах у веліканаў»

Толькі мы адзначылі юбілей Мерымэ, надыходзіць чарга іншай святочнай даты: «Востраву скарбаў» Роберта Льюіса Стывенсана споўнілася 130 гадоў. Гэта значыць, што больш як стагоддзе хлапчукі і дзяўчынкі ўсяго свету змагаюцца з крывадушнымі-крыважэрнымі піратамі і шукаюць — кожны свой — скарб. Беларускія дзеці таксама ўзялі ўдзел у захапляльных кніжных прыгодах, хоць і крыху пазней. У 1993 годзе «Юнацтва» выдала «Востраў скарбаў» на нашай мове, і адбылося гэта перадусім дзякуючы дзвюм асобам: перакладчыку Алесю Асташонку і мастаку Уладзіміру Гладкевічу. Са спадаром Уладзімірам мы і сустрэліся.

**— Як трапіла да вас кніга Стывенсана?**

— Усё як заўсёды: патэлефанавалі з выдавецтва і зрабілі замову. Не тое каб я быў аматарам «Вострава скарбаў», але разумеў, што праца сур'ёзная, што Стывенсан — класік англійскай літаратуры. Да таго ж, паўстала і матэрыяльнае пытанне. На той час у Акадэміі мастацтваў выкладчыкі атрымлівалі менш, чым абяцала замова. Трэба ж мастаку неяк утрымліваць студыю, ды і жыць, у рэшце рэшт... (Тут мне падумалася, што нездарма да спадара Уладзіміра трапіў менавіта «Востраў скарбаў». — **А. Г.**). Да таго я ўжо праілюстраваў «Тараса на Парнасе», атрымаў за кнігу на рэспубліканскай выстаўцы кніжнай графікі другі дыплом. За «Востраў скарбаў» таксама атрымаў нейкую ўзнагароду, але калі запыталіся: «Дык табе дыплом даваць?» — сказаў, што не трэба. Нашто лішнюю паперу на сцены вешаць.



**— І як ішла праца?**

— Вельмі хутка. Замовы звычайна гучаць так: «Валодзя, трэба хуценька зрабіць!» Як, напрыклад, было з «Тарасам на Парнасе»: спачатку кнігу меўся ілюстраваць Уладзімір Савіч, але ў яго бракавала часу, і ён параіў выдавецтву мяне. Праца мусіць ісці размерана: пачытаеш кнігу, пранікнешся, падумаеш, выбераш матэрыял... Трэба яшчэ і эскізы зрабіць, зацвердзіць. А тут — на табе! Так і працаваў, за месяц-паўтара.

**— Якая ўвогуле закладзена ідэя ў гэтых ілюстрацыях?..**

— У дзяцінстве Роберт Стывенсан, калі хварэў, гуляўся з фігуркамі салдацікаў, караблікамі, ладзіў цэлыя марскія баі. Адсюль у будучага пісьменніка ўзнікне жаданне стварыць такую вось пірацкую гісторыю. Менавіта ад гэтага я і адштурхоўваўся падчас працы. На ілюстрацыях спалучаныя адначасова два светы: сапраўдны, у якім жыве маленькі Роберт, і свет яго фантазій, дзе ёсць героі і злачынцы, піраты, скарбы, карты...

**— Дарэчы, карту вы самі складалі ці звярталіся па дапамогу да ранейшых варыянтаў?**

— У тэксце было апісанне, па ім і арыентаваўся. Напэўна, ёсць якая карта ў рукапісах самога Стывенсана, але я яе не бачыў.

**— Цяпер няма жадання штонебудзь змяніць у гэтай працы?**

— Шчыра кажучы, я і не ведаю, як зрабіў бы цяпер. Да таго ж, не памятаю, каб яшчэ нехта з нашых мастакоў афармляў Стывенсана. Але, што цікава, першапачатковыя эскізы моцна розняцца з тым, што маем у гатовай кнізе. Першы варыянт быў падобны да малюнкаў Міхаіла Шамякіна, з яго растушаванымі лініямі, стылізацыяй. Ілюстравац — гэта не значыць, што калі напісана «ён нясе рыдлёўку», то ты намалюеш, як ён яе нясе. Хочацца не тое каб адысці ад тэксту, але стварыць вобраз. Аднак камісія забракавала такі «адцягнены» варыянт. Ход ім не спадабаўся. Таму я звярнуўся да больш рэалістычнай манеры.

**— Вы ў асноўным ілюстравалі дзіцячыя кнігі...**

— Так. «Зіма з летам сустракаецца», «Чабарок», «Востраў скарбаў», «Беспрацоўны робат», зборнік апавесцей «Лісце каштанаў»... Справа ў тым, што большасць замоў прыходзіла ад выдавецтва «Юнацтва». І гэта пры тым, што першай маёй праілюстраванай кнігай стаў зборнік вершаў Мікалая Рубцова, а за ім ішла праца над «Хронікай дзетдомаўскага саду» Віктара Казько.

**— Адкуль увогуле ўзялося жаданне стаць мастаком?**

— У пятым класе сусед прывёў мяне ў мастацкую студыю (у Жодзіне, дзе і нарадзіўся спадар Уладзімір. — **А. Г.**). Усё дзякуючы ёй. Калі б не студыя, не ведаю, кім бы я быў: бацька мой — зваршчык, маці працавала на заводзе. А ў акадэмію паступіў толькі з чацвёртага разу. На трэці раз ужо быў прыняты, праходзіў па балах, але спазніўся на іспыт па гісторыі. Дні паблытаў... Раней на графіку конкурс быў вялікі, набіралі толькі чалавек пяць, а цяпер, ведаеце, мала ідуць, і тое — адны дзяўчаты. Пазней я сам стаў выкладчыкам, дацэнтам. І неяк раз на пятым курсе майго аддзялення засталіся толькі два чалавекі! Дзяўчынкі. Астатнія адлічылі за прафнепрыдатнасць. Бо гэта ж усё-такі акадэмія. Праўда, здарылася раз і такое, што хацелі адну дзяўчыну



з трэцяга курса адлічыць, слабаватыя працы былі, а яна гэтыя працы даслала ў Іспанію на конкурс і атрымала Гран-пры. Цяпер выкладае ў Барселоне.

**— Заўжды цікава даведацца, ці ёсць у мастака-ілюстратара ўлюбёныя аўтары.**

— Іх вельмі многа. Сёння дачытаў «Ноч пяшчотную» Фіцджэральда. Незвычайны аўтар Картасар. Шмат японцаў у маёй бібліятэцы. А таксама Кафка, Сэлінджэр. Не магу зацыклівацца на адным. Усё залежыць ад настрою, ад таго, вясёлы дзень ці шэрань за вакном. І вельмі люблю паэзію. Шкада, у мінскай майстэрні засталіся два тамы Бродскага, трэба забраць (цяпер спадар Уладзімір жыве ў Жодзіне). Калі чытаеш паэзію, часта выносіш для сябе нейкія ідэі, дэталі, асацыяцыі, вобразы, хады... Элюара люблю. А з беларусаў магу пачытаць Багдановіча. Таксама Васіля Быкава нядаўна чытаў. Выбітны празаік!

**— А ў дзяцінстве што чыталі?**

— Як быў малы, часта хадзіў у бібліятэку. І асабліва падабаўся мне Чыпаліна, «Нязнайка на месяцы» Носава — і Брэдберы. Памятаю і першую кнігу, на якую папрасіў грошай у маці. То быў альбом Клода Манэ. Каштаваў 10 рублёў, на тыя часы — вялікія грошы. Кніга была вялізная і неверагодна прыгожая.

Літаратура — надзвычай моцная духоўная падтрымка. Калі служыў у войску, то сам для сябе рабіў ілюстрацыі да «Старога і мора» Хемінгуэя. Трэба ж было ў нешта выкласціся. Як ні круці, без кніг нікуды. Усе мы сядзім на плячах у веліканаў.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Ёсць дабрыня...




У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі адбылася імпрэза, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння Эдзі Агняцвет, беларускай пісьменніцы, паэтэсы, перакладчыцы.

Вечарына невыпадкова атрымала назву «Ёсць чалавек, ёсць свет і дабрыня»: гэтыя тры паняцці былі цэнтральнымі ў жыцці і творчасці Э. Агняцвет. Сваёй паэзіяй яна дарыла дзецям дабрыню, адкрывала ім дарогу ў будучыню.

Пісаць для дзяцей складана. Трэба быць не толькі таленавітым творцам, але і шчырым, адкрытым чалавекам. Дзяцей не падманеш. Эдзі Агняцвет была менавіта такой жанчынай. Паэтэса лічыла, што дзіцячы пісьменнік «павінен быць адначасова і мастаком прафесіянальным, і шчырым сябрам маленькага чалавека». І ў яе атрымлівалася!

Ад першай кніжкі залежыць любоў да мастацкага слова. Таму і задача перад дзіцячымі паэтамі стаіць сур'ёзная. Эдзі Агняцвет умела не проста зацікавіць, пацешыць маленькага чытача, але і распавесці яму пра сур'ёзныя рэчы проста, зразумела, па-беларуску.

На сустрэчу прыйшлі вядомыя беларускія пісьменнікі, навукоўцы, родныя Эдзі Агняцвет. Узгадалі моманты жыцця і творчасці, прачыталі яе любімыя вершы. Паэзія Эдзі Агняцвет сапраўды цёплая, мілагучная. І меладычная, нібы песня — нездарма вялікая колькасць яе вершаў пакладзена на музыку.

Эдзі Агняцвет належаць паэтычныя зборнікі і для дарослых, а таксама цудоўныя пераклады твораў Пушкіна, Ахматавай, Някрасава, Барто, Беранжэ, Экзюперы ды іншых знакамітых пісьменнікаў.

Да імпрэзы была падрыхтавана выстаўка «Гэта — і сэрца і розум, неба маё і зямля», на якой былі прадстаўлены творы Эдзі Агняцвет. Сярод іх — паэтычныя зборнікі, пераклады, першыя выданні «Маё пакаленне», «Вершы», «Край мой родны», «Дарога ў будучыню», а таксама літаратура пра жыццё і творчасць пісьменніцы.

Падчас вечарыны адбылося адкрыццё літаратурна-мемарыяльнай выстаўкі з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. У экспазіцыі — рэдкія фотаздымкі, нататнікі, кнігі з аўтографамі, лісты да Эдзі Агняцвет ад яе сяброў, калег і блізкіх людзей. Большасць гэтых рэчаў была падаравана музею самой пісьменніцай і таму ўяўляе асаблівую каштоўнасць.

Кніга з цёплай назвай «У свеце дабрыні», выдадзеная да юбілею паэтэсы, таксама стала гераіняй імпрэзы. У зборнік увайшлі творы, якія ў розныя гады друкаваліся на старонках часопіса «Вясёлка». Нягледзячы на тое, што вершы былі напісаны даволі даўно, яны па сёння цікавыя дзецям.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Майстар ілюзій

Гартаю каталог рэпрадукцый жывапісу Міхаіла Канькова «Я жыву ў намаляваным свеце...». На вокладцы ўнізе — фота мастака ў профіль, задуменнага чалавека сярэдніх гадоў, зверху — аблічча статога за подпісам «Анёл. З серыі "Дотык да Дзіянісія"». Побач — філасофскія радкі верша пачатку IX ст. Она-но Комаці: «Пажоўклі фарбы // Летніх кветак, вось і я // Узіраюся ў жыццё // Сваё і бачу толькі // Восені доўгія дажджы».



*М. Канькоў «Залатая восень». 2011 г.*



*М. Канькоў «Яўрэйскае мястэчка». 2013 г.*

Адкрывае выданне блок чорна-белых і каляровых фотаздымкаў: шчаслівыя імгненні Мішы — падлетка шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя ў шапцы-аблавушцы; радавога Савецкай Арміі М. Канькова ў кіцелі з падшытымі падкаўнерыкамі і салдацкім рэменем з зоркай; усмешлівай закаханай пары — і вось ужо сямейнага трыа, разам з дарослай дачкой. Вось мастак «на эцюдах», у майстэрні, у калоне святочнай дэманстрацыі 7 лістапада, гутарыць з сябрамі і калегамі, з афіцыйнымі работнікамі. Закрывае блок маляўнічы мазаічны калаж з разнапланавых чароўна-зямных, абстрактных, рэалістычных і сюррэалістычных работ творцы.

Нарадзіўся Міхаіл Канькоў ва Удмуртыі ў 1947 годзе. Скончыў прафтэхвучылішча горада Кунгур Пермскай вобласці Расіі, атрымаў спецыяльнасць «Разьбяр па мастацкай апрацоўцы каменю». З 1994 года з'яўляецца членам Беларускага саюза мастакоў, удзельнічае ў шматлікіх мастацкіх выстаўках. Цяпер жыве ў Брэсце. М. Канькоў — аўтар мастацкага афармлення музея-цэнтра «Хлеб» у калгасе «Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці і музея выратаваных каштоўнасцей у Брэсце (абодва з Б. Малахавым), аўтар праекта інтэр'ера і вітражоў Дома грамадзянскіх абрадаў і экспазіцый абласнога краязнаўчага музея, а таксама іншых аб'ектаў Брэстчыны.

Прапрацаваўшы чвэрць стагоддзя ў галіне комплекснага мастацкага праектавання і афармлення інтэр'ераў і экстэр'ераў будынкаў, музейных экспазіцый, плакатаў, мастак паспрабаваў сябе ў станковым жывапісе. І спробы атрымаліся настолькі ўдалымі, што ўжо напрыканцы 1990-х гадоў работы М. Канькова звярнулі на сябе ўвагу беларускай і нямецкай крытыкі. Адбыліся персанальныя выстаўкі ў Брэсце і Германіі. Работы майстра захоўваюцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі і ў прыватных калекцыях шэрагу краін Еўропы і Амерыкі.

Мастацтва для Міхаіла Канькова — нібы казачная гульня, часам лёгкая, радасная, самадастатковая, часам патрабуе душэўных высілкаў гледача для разумення яе няпростых правілаў. Ён — майстар ілюзій, паэт міфаў і асацыяцый. Тэмы яго карцін, а таксама графічных цыклаў — экалогія чалавечай душы, фатальнае святло, страчаныя ілюзіі, сумненні, боль. Адсюль і назвы твораў — «Час раскіданых гнёздаў», «Перарваны палёт», «Слёзы капалі», «Караблі, якія патанулі»... Асабліва блізкія мне такія тэматычныя карціны М. Канькова, як «Тыя, што нясуць святло» (апоры высакавольтных ліній электраперадач на фоне палеглых лугоў і палёў Палесся), «Пасля навальніцы», «Чэрвеньскі поўдзень» (у іх адчуваецца бясконцасць нашага быцця).

Мы знаёмыя з Міхаілам Карнілавічам шмат гадоў, некаторы час разам працавалі. Але толькі тады, калі лёс падарыў мне радасць сяброўства з вялікім мастаком П. Данелія, я нечакана ўбачыў Міхаіла Канькова зусім паіншаму. Якраз тады ён быў старшынёй абласнога аддзялення Саюза мастакоў, і яго клопатам былі выдадзеныя два альбомы-каталогі гэтай грамадскай арганізацыі, праведзены дзве творчыя справаздачы брэсцкіх мастакоў у Мінску, адбыліся пленэры памяці Мікалая Селешчука, Напалеона Орды, Адама Міцкевіча, Пятра Машэрава.

Вось ужо адзінаццаць год М. Канькоў загадвае выставачнай залай Брэсцкага абласнога грамадска-культурнага цэнтра, дапамагае ўдзельнікам выставак, вернісажаў вырашаць арганізацыйныя пытанні, размяшчаць працы экспазіцый. Букеты руж і добрыя словы на адкрыцці экспазіцый заўжды знаходзяцца ў маладых творцаў.

Гэтай залатой восенню я часта сустракаюся з Міхаілам Карнілавічам. Узіраюся ў творчыя пошукі маэстра за мальбертам, слухаю цікавыя аповеды пра жыццё, прыроду, задумваюся над яго арыгінальнымі меркаваннямі пра сутнасць чалавечага быцця і «хуткую змену жыццёвых дэкарацый». Думаю, што да ўсяго гэтага зможа сэрцам і душой дакрануцца глядач пры чарговай сустрэчы з новым праектам «Праплываюць аблокі, праплываюць...», над якім мастак-філосаф працуе сёння.

**Аляксандр ЮДЗІЦКІ**

# На Пакровы — вечныя словы

У дзясяты раз у Палацы мастацтваў прайшла праваслаўная духоўна-асветная выстаўка «Пакроўскі кірмаш».



*Фота Кастуся Дробава*

Пакровы — старажытнае свята славян, якое адзначалася восенню, пасля завяршэння ўсіх земляробчых работ. Але выстаўка, якая адбылася, нездарма называецца духоўна-асветнай. Дэманстраваліся набыткі «жніва» духоўнага: праходзілі прэзентацыі кніг, дыскаў, ладзіліся культурна-асветныя мерапрыемствы.

Не засталося ўбаку і выдавецтва «Чатыры чвэрці», якое надае вялікую ўвагу выпуску духоўнай літаратуры. Тым больш што з Пакровамі супаў выхад кнігі-альбома «Праваслаўныя святыя зямлі Беларускай», прэзентацыя якой адбылася ў мінулую пятніцу. Як адзначыла дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяна Анцух, кніга-альбом — шостая з серыі «Нашы духоўныя каштоўнасці». Пачатак гэтай свайго роду духоўнай бібліятэкі з благаславення Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта быў пакладзены ў 1995 годзе, калі пабачылі свет выданні «Праваслаўнае дойлідства» і «Праваслаўныя святы». Новая кніга-альбом — унікальная. Упершыню ў адным выданні расказваецца пра ўсіх, хто аднесены да Сабора беларускіх святых, у тым ліку пра новапакутнікаў. Пра кожнага пададзены вычарпальныя звесткі, змешчана рэпрадукцыя іконы з выявай святога. Менавіта таму гэтая падзвіжніцкая, па-сапраўднаму даследчыцкая праца і заняла не адзін год, распачаўшыся ў 2005-м. Затое і вынік атрымаўся значны: з'явілася выданне, якое шмат можа даць сэрцу і душы кожнага, хто імкнецца лепш ведаць нацыянальную гісторыю, хто неабыякавы да нашай духоўнай спадчыны.

Апошнія навінкі выдавецтва «Чатыры чвэрці» — кнігі протаіерэя Паўла Баянкова «Любовь. Путевые заметки», а таксама вядомага беларускага паэта Змітрака Марозава «Материнской молитвенной речью...», — перакладзеныя на рускую мову Андрэем Цяўлоўскім, прадставілі самі аўтары.

У межах прэзентацыі адбыліся прагляд фільма «Званар», сустрэча з членамі сацыякультурнага праекта «Рэзананс», выступленні студэнтаў Беларускай акадэміі музыкі.

**Васіль ВЯРЭНІЧ**

# Анёлы заспяваюць

Х фестываль праваслаўных песнапенняў «Дзяржаўны глас» адбудзецца заўтра ў мінскім Свята-Елісавецінскім манастыры.

Фэст найперш вылучаецца сваім фарматам — гэта канцэрт харавых калектываў. Цікава, што большая частка хароў, якія бяруць удзел у гэтым фестывалі, — свецкія. За час існавання «Дзяржаўнага гласу» слухачу былі прадстаўлены лепшыя ўзоры праваслаўных спеваў у выкананні больш як 30 хароў з Беларусі, Расіі, Украіны і Сербіі. Фэст не з'яўляецца конкурсам, і ў гэтым прынцыповая пазіцыя яго арганізатараў. Усе калектывы розныя — высокапрафесійныя і аматарскія, царкоўныя і свецкія, дарослыя і дзіцячыя, таму і не могуць спаборнічаць паміж сабой. Выконваюцца праваслаўныя песнапенні, хары рускіх кампазітараў, народныя песні. Гэта дабрачыннае мерапрыемства і для харавых калектываў, і для слухачоў. Па благаславенні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта «Дзяржаўны глас» праводзіцца двойчы на год (у першую суботу пасля свят Вялікадня і Пакрова Прасвятой Багародзіцы). На наступны дзень, у нядзелю, аднаму з хароў прадастаўляецца магчымасць удзельнічаць у Боскай літургіі.

Як адзначае арганізатар і кіраўнік фестывалю «Дзяржаўны глас» манахіня Іўліянія, усё пачалося з хору храма святой Сафіі Слуцкай. Яго ўдзельнікі прыйшлі з экскурсіяй у манастыр, і харaство храма ў гонар іконы Божай Маці «Дзяржаўная» так іх захапіла, што спевы паліліся самі сабою.

У суботу запланавана экскурсія па Свята-Елісавецінскім манастыры, а таксама выступленні пеўчых калектываў з Беларусі, Украіны і Сербіі.

«Дзяржаўны глас» адраджае традыцыі царкоўных спеваў. У XV — XVI стст. у Расіі іх называлі «анёльскімі» або «анёлападобнымі». Да таго ж, дзякуючы фестывалю манастыр, як было спрадвеку, вяртае сабе ролю цэнтра культурнага жыцця.

**Таццяна ШЫМУК**

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

*Слова краязнаўцы*



**Ірына КОННАВА, дырэктар Бялыніцкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сеткі Магілёўскай вобласці, распавядае пра стварэнне рэгіянальнага электронна-краязнаўчага рэсурсу «Літаратурная карта Бялыніцкага раёна»:**

— Мэта рэсурсу — бліжэй пазнаёміць карыстальнікаў з багатым літаратурным асяроддзем Бялыніччыны, сучаснай творчасцю паэтаў і празаікаў, якія нарадзіліся ў раёне альбо сваёй творчасцю звязаны з Бялыніцкім краем, павысіць цікавасць да гісторыі, культуры і літаратурнай спадчыны, пакінутай знакамітымі землякамі.

Змест электроннай базы дадзеных складаюць не толькі асноўныя біяграфічныя факты. Узгадваюцца навуковыя і ганаровыя званні, прэміі, дзяржаўныя ўзнагароды, прыналежнасць да Саюза пісьменнікаў Беларусі, уключаны і тэксты некаторых твораў. Электронны рэсурс дапоўнены персанальным і геаграфічным паказальнікамі, выдзелены раздзел «Літаратурныя аб'яднанні і гурткі». Інфармацыя пра кожнага пісьменніка ўтрымлівае бібліяграфічныя матэрыялы.

Электронная «Літаратурная карта Бялыніцкага раёна» звернута да самай шырокай аўдыторыі: літаратараў, настаўнікаў, студэнтаў, школьнікаў, бібліятэкараў, краязнаўцаў і наогул усіх тых, хто актыўна цікавіцца літаратурным жыццём Бялыніччыны.

Стварэнне літаратурнай карты — інавацыйны праект супрацоўнікаў аддзела абслугоўвання і інфармацыі Бялыніцкай цэнтральнай раённай бібліятэкі, заснаваны на выкарыстанні сучасных інфармацыйных тэхналогій. Пра дызайн і праграмнае забеспячэнне электроннага рэсурсу паклапаціўся аператар капіравальных і размнажальных машын Наталля Чарнышэнка. У мінулым дзякуючы яе асабістай зацікаўленасці стала магчымым стварэнне электроннай базы дадзеных.

Бялыніцкая цэнтральная раённая бібліятэка будзе і надалей наладжваць сувязі з літаратарамі, вяртаць з нябыту забытыя імёны, падтрымліваць маладых паэтаў і пісьменнікаў, прапагандаваць іх творы і ладзіць прэзентацыі новых кніг пісьменнікаў-землякоў… Мы робім гэта з задавальненнем!

*Музейны ўнікат*

# Куфар, Радзівіл і… «Тупалеў»

**Сёлета навуковыя супрацоўнікі Слуцкага краязнаўчага музея папоўнілі фонды ўстановы цікавымі экспанатамі. Адзін з іх — куфар канца XIX стагоддзя, выраблены з дрэва, які цяпер знаходзіцца ў музеі этнаграфіі — адным з філіялаў установы.**

Пашчасціла і падчас экспедыцыі ў вёску Кухты. Мясцовая жыхарка Алена Ляневіч перадала ў дар музею старадаўняе драўлянае крэсла. Жанчына патлумачыла, што яно належала яе далёкаму продку Рыгору, які сцвярджаў, што менавіта на гэтым крэсле адпачываў князь Радзівіл, калі вельмі стамляўся на паляванні.

Вялікую цікавасць у наведвальнікаў музея выклікае экспазіцыя «Случане і космас». Прадстаўленыя экспанаты распавядаюць пра ўраджэнцаў рэгіёна, якія зрабілі значны ўнёсак у развіццё авіяцыі і касманаўтыкі СССР. Гэта былы дырэктар абсерваторыі пры Маскоўскім дзяржаўным універсітэце Вітольд Цэраскі, галоўны канструктар авіяцыйных і ракетных рухавікоў, лаўрэат Ленінскай прэміі Сямён Косберг, два кіраўнікі касмадрома Байканур — генерал-палкоўнік Канстанцін Герчык і генерал-лейтэнант авіяцыі Юрый Жукаў, «наземны касманаўт», штурман «Месяцахода» Канстанцін Давідоўскі і інш.

У гэтым годзе музей наведаў жыхар Масквы Дзмітрый Шаўчук і перадаў матэрыялы, прысвечаныя свайму бацьку, генеральнаму авіяканструктару авіякарпарацыі «Тупалеў», ураджэнцу г. Слуцка Ігару Шаўчуку. Ігар Сяргеевіч — заслужаны канструктар Расійскай Федэрацыі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Расіі. Сярод экспанатаў таксама — фотаздымкі, дакументы, кнігі пра авіякарпарацыю «Тупалеў», макеты самалётаў «ТУ-22МС», «ТУ-25МС», «ТУ-160», якія распрацоўваў Ігар Шаўчук. Асабліва вылучаецца мадэль самалёта «ТУ-144».

У апошні час гэтая экспазіцыя папоўнілася незвычайнымі прадметамі: наборам прадуктаў харчавання для расійскіх касманаўтаў, якія спецыяльна на набылі на Бірулёўскім эксперыментальным заводзе ў Маскве.

Случчына славіцца сваімі творцамі, сярод якіх — пісьменнік і навуковец Мікола Лобан. Нядаўна дочкі Міколы Паўлавіча Ірына і Людміла перадалі ў музей цікавыя рэчы: пісьмовы стол, друкарскую машынку, дакументы, фотаздымкі і кнігі, якія належалі Міколу Лобану. Цяпер усё гэта знаходзіцца ў экспазіцыі Слуцкага краязнаўчага музея.



*Куфар канца XIX ст.*

**Васіль ЦІШКЕВІЧ, фота аўтара**

# «Арт-Жыжаль»: быў, ёсць і будзе?

**Творы замежных аўтараў-керамістаў прадстаўлены на выстаўцы «Рэтраспектыва» ў сталічным Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.**

Экспазіцыя — нагода для ўспамінаў і разважанняў пра міжнародныя пленэры па кераміцы «Арт-Жыжаль», першы з якіх прайшоў у 2003 годзе. У Бабруйск у розныя часы прыязджалі прадстаўнікі Расіі, Украіны, Малдовы, Літвы, Латвіі, Польшчы, Балгарыі, Англіі, Германіі, Турцыі, Францыі, Венесуэлы, Казахстана і іншых краін свету. Звычайна замежнікі складаюць не менш як палову ўдзельнікаў і імкнуцца пазнаёміцца са спецыфікай працы ў творчай суполцы, атрымаць прафесійны досвед і новыя веды.

— «Рэтраспектыва» складаецца з работ, якія захоўваліся ў маёй майстэрні гадамі, — распавёў старшыня Бабруйскай гарадской арганізацыі Беларускага саюза мастакоў, арганізатар і кіраўнік міжнародных пленэраў па кераміцы «Арт-Жыжаль» Валерый Калтыгін. — У свой час гэтыя творы ўдзельнічалі ў выніковых выстаўках, але па розных абставінах мастакі іх не забралі. І ўзнікла ідэя прадставіць такія цудоўныя вырабы яшчэ раз, бо работы, канечне, павінны «працаваць». А выстаўка — як успамін пра тое, што было.

Дарэчы, «Арт-Жыжаль» пачыналі некалькі сяброў. Вялікая заслуга ў тым, што ён перарос у значную мастацкую падзею, яго нязменнага кіраўніка і аўтара прапанаваных творцам тэм Валерыя Калтыгіна.

— «Арт-Жыжаль» — унікальная з'ява для беларускага выяўленчага мастацтва, бо многія творчыя акцыі пачыналіся, праходзілі адзін-два разы і знікалі, а гэты пленэр жыве, — зазначыла мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн, заснавальніца першай беларускай галерэі «Брама». — Нягледзячы на стылёвую разнастайнасць удзельнікаў, прадстаўнікоў розных школ керамікі, выніковыя выстаўкі вылучаюцца нечаканай цэласнасцю і адзінствам. Кожная работа — паказчык прафесіяналізму і мастацкага густу.

Мастацтвазнаўца звярнула ўвагу на тое, што на пачатку 1970-х гадоў беларускія творцы здзейснілі кардынальны пераварот у кераміцы. Сёння яна здольная на многае.



*Фота Кастуся Дробава*

*Ларыса Захарава (Санкт-Пецярбург, Расія). Без назвы. 2003. Шамот, палiва, солі.*



*Зоф'я Косерэк (Варшава, Польшча) «Лугі», 2007. Шамот, паліва, рэдукцыя.*

**Раіса МАРЧУК**

*Праекты*

## Урокі дзядзькі Коласа

Супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа распрацавалі музейна-педагагічны праект «Крочым у школу разам з Коласам», прызначаны для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту.

Складаецца ён з васьмі заняткаў, якія праводзяцца ў захапляльнай гульнёвай форме. Падчас лялечных спектакляў дзеці знаёмяцца з іншымі персанажамі коласаўскіх твораў і народных беларускіх казак.

Асобнае месца адводзіцца вывучэнню беларускага алфавіта, развіццю творчых і разумовых здольнасцей праз занятка па тэхналогіі французскіх майстэрняў (інтэнсіўная тэхналогія навучання, якая дазваляе на аснове атрыманых дадзеных праз самастойны аналіз развіваць і інтэрпрэтаваць уласнае бачанне тых ці іншых рэчаў). Дзеці будуць займацца лепкай з салёнага цеста, ствараць вечны каляндар, вырабляць папяровыя і мультымедыйныя паштоўкі.

Вялікая ўвага надаецца знаёмству з айчыннай літаратурнай спадчынай. Адбудуцца сустрэчы з беларускімі дзіцячымі пісьменнікамі, паказ кінастужкі па творы Янкі Маўра «Палескія рабінзоны». На першым этапе правядзення праекта дзеці ўжо даведаліся пра творчасць паэта Уладзіміра Мацвеенкі.

Адзін з асноўных складнікаў праекта — даць дзецям рознабаковыя веды пра творчасць і жыццё Песняра ў зразумелай і адначасова даступнай форме.

**Аліна САМОХІНА, навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа**

*Цікава ведаць*

## Як жылі продкі

Выстаўка «Успамін пра матчыну хату» працуе ў Гродзенскім музеі гісторыі рэлігіі. Мэта экспазіцыі — падкрэсліць вялікую ролю жанчыны ў выхаванні дзяцей і фарміраванні духоўна-маральнага аблічча беларускага народа. Прадстаўлена больш як 70 работ беларускай этнаграфіі XIX — сярэдзіны XX ст.: прадметы побыту і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, адзенне, наміткі (жаночыя галаўныя ўборы), ручнікі, велікодныя маляванкі, посцілкі, абрусы, вышыўкі і інш.

Выстаўка дэманструе творчы дух беларусак, якія, нягледзячы на цяжкую працу, імкнуліся ўпрыгожыць побыт сям'і. Кожны экспанат па-свойму ўнікальны і дапамагае гледачу ўявіць лад жыцця прабабуль, адчуць, колькі працы, клопату, душы ўкладвалі яны ў гэтыя рэчы. Прадметы побыту і дэкору адлюстроўваюць разуменне жанчынай сэнсу жыцця і сям'і.

Сярод экспанатаў ёсць і абразы, адзін з іх — «Пакроў Святой Багародзіцы» — створаны ў XIX ст. Як вядома, традыцыйна ў кожнай хаце быў чырвоны кут. Ён успрымаўся як далонь Бога. Гэтае месца ўпрыгожвалі да свят. Так жанчыны прывівалі дзецям павагу да традыцыйных каштоўнасцей.

**Міра ІЎКОВІЧ**

*Актуальна*

# Рэстаўрацыя па-еўрапейску

Міжнародны семінар па ахове гісторыка-культурнай спадчыны прайшоў у Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. Ладзіў яго Беларускі камітэт Міжнароднага савета музеяў пры падтрымцы міжнароднага фонду «Культурная спадчына без межаў».

Ці задумваліся вы калі-небудзь над тым, які ўнёсак можа зрабіць кожны з нас для аховы помнікаў архітэктуры? А што можа прапанаваць супольнасць, якая валодае, напрыклад, старадаўнім будынкам? Не дзіўна, што прысутныя на лекцыях двух шведскіх прафесараў з цікавасцю ўспрымалі іх расповеды пра захаванне нацыянальнага багацця і крыху іншыя падыходы да зберажэння таго, што засталося ў спадчыну ад продкаў.

Першым узяў слова прафесар упраўлення культурнай спадчыны і ўстойлівага развіцця ўніверсітэта г. Упсала (Швецыя) Хрыстэр Густафсон, які засяродзіўся на гісторыі і філасофіі рэстаўрацыі. Дарэчы, прафесар — адзін з 13 намініраваных экспертаў, адказных за еўрапейскую версію Спіса сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

Хрыстэр Густафсон шмат разоў наведваў Літву, Расію, а ў Беларусь прыехаў упершыню. З 2005 па 2012 год ён быў дырэктарам рэгіянальных музеяў г. Холанд. Цяпер — Генеральны сакратар Міжнароднага навуковага камітэта па эканоміцы кансервацыі ІКАМОС, аўтар і распрацоўшчык некалькіх вядомых праектаў у Еўропе. Адзін з яго праектаў у рэгіёне Балтыйскага мора быў намініраваны на званне лепшага ў свеце на Сусветным саміце ААН у Іаганесбургу.

Як навуковец Х. Густафсон цікавіцца пытаннямі ўзаемадзеяння ўдзельнікаў працэсу зберажэння спадчыны, магчымасцю захавання старых будынкаў шляхам кааперацыі з рынкам працы і будаўнічай галіной. Лічыць, што на аб'ектах, дзе ідзе рэстаўрацыя, могуць быць занятыя людзі, якія яшчэ нядаўна былі беспрацоўнымі. А інвестыцыі ў культурную спадчыну, магчыма, стануць галоўнай сілай рэгіёна, падмуркам для ўстойлівага развіцця тэрыторыі, асабліва турызму.

Прафесар Андрэс Хеймоўскі, галоўны архітэктар Каралеўскага палаца ў Стакгольме, прафесар кансервацыі архітэктурных помнікаў, сваю дзейнасць прысвяціў рэстаўрацыі і кансервацыі нерухомай спадчыны. Працуе таксама як запрошаны эксперт-кансультант, у тым ліку ў Расіі. У прыватнасці, займаўся рэстаўрацыяй драўлянай архітэктуры і будынкаў з натуральнага каменю ў Санкт-Пецярбургу.

— Першыя 50 гадоў культурная спадчына ў небяспецы, бо цяжка адразу ацаніць тое, што стварылі нашы бацькі, — распавёў Андрэс Хеймоўскі. — Падумайце некалькі разоў: ці патрэбна наогул разбураць? Неабходна вельмі пільна вывучаць помнік, калі ідзе размова пра яго ўзнаўленне. Асабліва складана вырашыць, як рэстаўрыраваць руіны. У пачатку XX ст. у Швецыі пад уплывам італьянцаў пачалі праводзіць рэстаўрацыю, грунтуючыся на навуковым падыходзе.

Падчас Другой сусветнай вайны было разбурана вельмі шмат будынкаў — і гэта сапраўдная трагедыя для еўрапейскіх краін. У кожнай з іх па-рознаму вырашалі гэтую праблему. Горад Ратэрдам (Галандыя), у якім размяшчалася нямецкая гавань, разбурылі бамбардзіроўкамі англічане і амерыканцы. Галандцы выраšылі ўзвесці новы горад. Польскія ўлады пайшлі іншым шляхам і адбудавалі Варшаву, якой яна была да вайны, — выбралі чыстую рэканструкцыю. Шведы ў 50 — 60-я гады мінулага стагоддзя знеслі ў многіх буйных населеных пунктах добрыя пабудовы, у тым ліку і помнікі архітэктуры, каб па амерыканскім узоры стварыць сучасныя індустрыяльныя гарады з метро, аўтамагістралямі і вялікімі гандлёвымі цэнтрамі.

— А ў 60-я гады ў Швецыі з'явілася новая плынь, — прадоўжыў Андрэс Хеймоўскі.— Мы адчувалі, што больш не можам так абыходзіцца са сваёй культурнай спадчынай, і пачалі больш уважліва ставіцца да таго, што маем. Звярнуліся да даўнейшых матэрыялаў і тэхналогій, бо на практыцы шведскія рэстаўратары ўпэўніліся: сучасныя матэрыялы вельмі часта непрыдатныя для аднаўленчых работ: праз некалькі гадоў часткі пабудоў, здаралася, проста рушыліся. Акрамя гэтага, майстроў, якія ведалі старадаўнія тэхналогіі, цяпер амаль не засталося. Але мы змаглі вярнуць аўтэнтыку ў рэканструкцыю: пачалі выкарыстоўваць адпаведныя печы, знайшлі людзей, якія валодаюць старадаўнімі рамёствамі.

Дарэчы, японцы лічаць, што помнікі — гэта нават не будынкі, а найперш — майстры, якія ведаюць, як яны ўзводзіліся, і перадаюць свае навыкі з пакалення ў пакаленне. Таму гэтых людзей вельмі шануюць.

**Раіса МАРЧУК**

*Вытокі*

# Памяць пра сібірскага высыльнага

Сёлета споўнілася 210 гадоў з дня нараджэння падарожніка-этнографа, перакладчыка, пісьменніка Адольфа Янушкевіча. У нашай краіне шануюць памяць слыннага беларуса.

Ці мог спадзявацца Адольф Янушкевіч, што праз стагоддзі яго імя стане вядомым адразу ў чатырох краінах, а яго працы атрымаюць афіцыйнае прызнанне як унёсак у беларускую, рускую, польскую, англійскую, украінскую і казахскую культуры? Нават цяжка вызначыць, дзе зорка Янушкевіча гарыць ярчэй: у Польшчы, за абарону інтарэсаў якой ён быў пазбаўлены шляхецтва і маёмасці; у Расіі, што стала школай жыцця амаль на чвэрць стагоддзя; у Казахстане, дзе праявіўся яскравы талент летапісца?.. А можа, у Беларусі, адкуль пачаўся шлях у вялікі свет і дзе знайшоў апошні прытулак яго нястомны дух?

Імя Адольфа Янушкевіча і сёння служыць сімвалам патрыятызму. Ён — яскравы прадстаўнік той апантанай моладзі часоў дзекабрысцкага руху, якая ставіла гонар, сумленне і вернасць Радзіме вышэй за ўсе выпрабаванні і цяжкасці, праяўляла нязломнасць характару нават тады, калі гучаў смяротны прысуд. Адольф не ўзяў шлюб са сваёй каханай Стэфаніяй, бо не мог змірыцца з тым, што нашчадкі будуць несці «крыж» яго пакарання.

Слынны Нясвіж, дзе 9 чэрвеня 1803 года нарадзіўся Адольф Янушкевіч, стаў калыскай спагадлівага стаўлення да людзей, якое пазней праявілася ў ступені найвышэйшай павагі і да казахскага народа. Яго прарочыя словы, прамоўленыя ў сярэдзіне XIX ст., узрушаюць глыбінёй разумення гістарычнай ролі казахаў: «Народ, які адораны Тварцом такімі здольнасцямі, не можа застацца чужым цывілізацыі: дух яе калі-небудзь пранікне ў кіргізскія пустыні, раздзьме тут праменьчыкі святу, і прыйдзе час, калі намад, які сёння качуе, зойме ганаровае месца сярод народаў…» Чаго варты такі факт: умовы жыцця сібірскага высыльнага наш зямляк скарыстаў для падняцця духу цэлага народа, да якога прыкіпеў усёй душой. Вывучыў мову казахаў і рушыў у дзікі стэп, пераадольваў адлегласці, якія былі нялёгкімі нават для звыклых да доўгіх пераходаў качэўнікаў. Стварэнныя А. Янушкевічам працы ў гістарычным сэнсе не маюць сабе роўных, паколькі даследаванняў па гісторыі Казахстана XIX ст. амаль няма.

1 лістапада 2013 года на сямейных могілках у вёсцы Дзягільна Дзяржынскага раёна, дзе пахаваны Адольф Янушкевіч, будзе аддадзена даніна павагі слыннаму сыну зямлі беларускай. А ў самім Дзяржынску пройдуць літаратурныя чытанні, удзельнікі якіх перагорнуць старонкі творчых здабыткаў свайго земляка, распавядуць пра ацэнкі, якія давалі гэтай Асобе сучаснікі.

Узяць удзел у мерапрыемстве мае намер дэлегацыя з Казахстана. Казахскі рэжысёр Сяргей Шафір, які жыве ў Ізраілі, прысвяціў Адольфу Янушкевічу частку дакументальнага фільма «Урокі польскай». Цяпер творца назбіраў матэрыял для стварэння асобнай кінастужкі. На думку Сяргея Шафіра, гэта можа быць сумесны гісторыка-культуралагічны праект Беларусі, Польшчы, Казахстана і Расіі.


*Помнік Адольфу Янушкевічу ў вёсцы Дзягільна.*

**Алена СТЭЛЬМАХ,**
**фота аўтара**

*Да ведама*

# Удалечыні ад шуму гарадскога

Новая інфармацыйна-адукацыйная кампанія «Простыя рэчы» па далейшым развіцці аграэкатурызму, якая з'яўляецца часткай праекта USAID/ПРААН «Мясцовае прадпрымальніцтва і эканамічнае развіццё», стартуе ў Беларусі.

Беларускае грамадскае аб'яднанне «Адпачынак у вёсцы» выступае партнёрам па рэалізацыі інфармацыйна-адукацыйнай кампаніі, Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь — нацыянальнай арганізацыяй-выканаўцам праекта.

Паводле дадзеных Сусветнай турысцкай арганізацыі, рынак экалагічнага турызму імкліва расце ва ўсім свеце — прыкладна на 15 — 20 працэнтаў за год. Цяпер у нашай краіне рэалізуецца больш як 20 праектаў міжнароднай тэхнічнай дапамогі ў гэтай галіне. Як зазначыў дырэктар дэпартамента па турызме Міністэрства спорту і турызму Вадзім Кармазін, беларусам цікавы міжнародны досвед у развіцці экатурызму, тым больш што 52 працэнты тэрыторыі нашай краіны — гэта экалагічныя сістэмы, якія маюць не толькі рэспубліканскі, але і міжнародны статус. Экалагічны турызм, паводле дадзеных Сусветнай гандлёвай арганізацыі, уваходзіць у пяцёрку асноўных перспектыўных кірункаў развіцця.

— Ажыццяўленне праекта стане добрым прыкладам прыватна-дзяржаўнага партнёрства, — адзначыла старшыня праўлення Беларускага грамадскага аб'яднання «Адпачынак у вёсцы» Валерыя Кліцунова. — Падчас яго рэалізацыі будзе нададзена ўвага і безбар'ернаму турызму. «Простыя рэчы», якія мы прапагандуем, павінны быць даступнымі для ўсіх, у тым ліку і для людзей з абмежаванымі магчымасцямі.

Кампанія «Простыя рэчы» будзе праходзіць на працягу года. Асноўныя мерапрыемствы адбудуцца ў Брэсцкай і Гродзенскай абласцях, дзе рэалізуецца праект USAID/ПРААН «Мясцовае прадпрымальніцтва і эканамічнае развіццё» ў партнёрстве з БГА «Адпачынак у вёсцы». Будзе распрацавана серыя сацыяльных плакатаў рознай тэматыкі: «Смачна, як у бабулі», «Вандроўкі па зялёных сцежках», «Адпачывайце ў вёсцы», «Гэта павінны бачыць і нашы ўнукі» і інш. Каб прыцягнуць увагу грамадскасці да магчымасцей аграэкатурызму ў якасці пляцоўкі як для адпачынку, так і бізнесу, плануецца запусціць і сацыяльную рэкламу «Простыя рэчы», правесці экалагічныя адукацыйна-выхаваўчыя акцыі, арганізаваць валанцёрскія групы для працы ў аграсядзібах, прыродаахоўных установах, экамузеях, на зялёных маршрутах.

У межах кампаніі пройдуць конкурс дзіцячага малюнка на тэму аграэкатурызму, канферэнцыя «Творчая лабараторыя зялёнага турызму», «Летнік рамёстваў» і фестываль *Organic party*, прысвечаны традыцыйнай кухні, заснаванай на натуральных прадуктах. А ў маі будучага года ўдалечыні ад шуму гарадскога чакаецца ўжо традыцыйны для аматараў адпачынку Дзень адкрытых дзвярэй на аграэкасядзібах.

**Святлана СТРОК**

# След разважанняў





Каля сямідзесяці жывапісных твораў беларускага мастака Вячаслава Захарынскага экспануецца ў галерэі галоўнага корпуса Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

Гэта мастак, які пастаянна знаходзіцца ў пошуку. Яго карціны ўзнікаюць з унутранай патрэбы ў развіцці, абнаўленні. Жывапіс мастака звернуты не да гледача, а да самога сябе, свайго ўнутранага «я».

Вячаслаў Захарынскі нарадзіўся ў 1950 годзе ў г. п. Глуск Магілёўскай вобласці. Скончыўшы Мінскае мастацкае вучылішча імя А. К. Глебава, паступіў у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Яшчэ будучы студэнтам, з 1974 года становіцца ўдзельнікам рэспубліканскіх і міжнародных выставак. Творы звярнулі на сябе ўвагу ў 90-я гады XX стагоддзя.

У кожнага мастака ёсць тэмы, у якіх ён з найбольшай адкрытасцю і яснасцю выказвае стаўленне да свету, свае філасофскія, і эстэтычныя погляды. В. Захарынскага можна назваць «шматслоўным»: любая тэма распрацоўваецца ў дзясятках варыянтаў, таму з'явіліся цэлыя жывапісныя цыклы. Можа падацца, што паміж імі няма нічога агульнага! Спачатку з'явіліся палотны, дзе смелая фантазія аўтара пранікае ў душу чалавека. Цыклы «Пацукі» (1976 — 1989), «Фарысеі» (1989 — 1990), «Грэшнікі» (1990 — 1991) і «Святыя» (1990 — 1991) імкнуцца да разважання і даюць уяўленне пра «чорнае» і «белае», пра тое, што яно нікуды не знікае і жыве побач з намі. Адчуванне, пабудаванае на падсвядомасці, — спосаб існавання творцы ў мастацтве.

Пазней нарадзіліся цыклы «Часоў злучальная нітка» (1997 — 2004 г.), «Лэдзі» (з 2004 г.). Некаторае падабенства з рэстаўрацыйнымі працэсамі раскрыцця жывапісных слаёў можна ўбачыць у цыкле «Часоў злучальная нітка». Задачы прадвызначаюць і кампазіцыйную пабудову, дынамічную, што пагарджае дэталямі, у цыкле «Лэдзі». Партрэт — у большасці выпадкаў зборны вобраз. Мастак свабодна ўзаемадзейнічае з мадэллю, выходзячы з уласнага ідэалу, — «Незнаёмая знаёмая» (2010), «Народжаная прыгажосцю» (2011).

І ўсё ж работы розных гадоў аб'ядноўваюць рысы, абумоўленыя ўласцівасцямі натуры аўтара. Тэмперамент і іншыя індывідуальныя асаблівасці мастака, уменне карыстацца філасофскімі катэгорыямі даюць магчымасць пераасэнсоўваць і сінтэзаваць у сваёй творчасці розныя стылі і традыцыі.

**Таццяна ШЫМУК**

# Класіка восені

XXXIX Міжнародны фестываль мастацтваў «Беларуская музычная восень» адкрыўся ў сцэнах Белдзяржфілармоніі 15 кастрычніка выступленнем Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава. Выконвалася не толькі ўпадабаная публікай класіка, але і новыя творы беларускіх аўтараў. Упершыню прагучалі Канцэрт для клавіра з аркестрам Віктара Капыцько, саліравала маладая піяністка і кампазітар з Санкт-Пецярбурга Анастасія Хрушчова. Яшчэ адной прэм'ерай стала выкананне Сімфоніі № 5 Вячаслава Кузняцова. Завяршыўся вечар Сімфоніяй № 5 мі мінор Пятра Чайкоўскага.

Праграма фестывалю складаецца з 23 канцэртаў у выкананні прадстаўнікоў сямі краін свету. Як заўважыў мастацкі кіраўнік філармоніі Юрый Гільдзюк, форум парадуе меламанаў разнажанравасцю. Гледачоў чакаюць імпрэзы да 25-годдзя стварэння Дзяржаўнага камернага хору Беларусі і ансамбля салістаў пад кіраўніцтвам Ігара Іванова, выступленні беларускіх піяністаў з сусветнымі імёнамі Андрэя Паначэўнага (Беларусь — ЗША), Ліліі Умновай (Беларусь), Цімура Сергеені (Беларусь — Бельгія), Віталя Стахievіча (Беларусь — Нідэрланды), Яўгена Міхайлава (Расія), Влодэка Паўліка (Польшча). Канцэрт, прысвечаны выдатнай скрыпачцы савецкага часу Зоры Шыхмурзаевай, адкрые новы цыкл філарманічных канцэртаў Дзяржаўнага камернага аркестра пад кіраўніцтвам Яўгена Бушкова. У суправаджэнні Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча пад кіраўніцтвам Міхаіла Казінца выступяць маладыя таленавітыя оперныя выканаўцы Уладзімір Мароз, Людміла Лазарчык,



Ілья Гоўзіч. Госцем канцэртнай серыі «Уладзіслаў Плігаўка і сябры» стане літоўскі ансамбль *Subtilu-Z*, вядомы сваёй манерай злучаць класіку, джаз, рок, кантры і рок-н-рол. Акрамя таго, у выкананні артыстаў беларускай эстрады прагучаць песні двух карыфеяў песеннага жанру — кампазітараў Ігара Лучанка і Эдуарда Ханка. Таксама адбудуцца беларуска-польскія музычныя сустрэчы.

Гаворачы пра 39-ю «Беларускую музычную восень», гендырэктар Белдзяржфілармоніі Аляксандр Гарбар адзначыў насычанасць канцэртнай праграмы: «Гэта аб'ём працы варшаўскай філармоніі ў кастрычніку, палова аб'ёму ўкраінскай філармоніі! Так мы можам зававаць любую краіну Еўропы».

У 2014 годзе юбілейны, 40-ы, фестываль «Беларуская музычная восень» плануецца правесці не толькі ў Мінску. Культурнай сталіцай Беларусі ў надыходзячым годзе абвешчаны Гродна. «Ёсць прапанова пашырыць геаграфію фестывалю і праводзіць яго ў абласных цэнтрах. У наступным годзе, магчыма, ахопім Ліду і Маладзечна», — заявіў Юрый Гільдзюк. У сваю чаргу, Аляксандр Гарбар падкрэсліў, што гэтае пытанне будзе абмеркавана з кіраўніцтвам абласных філармоній, куды прыйшлі маладыя дырэктары. У бліжэйшыя месяцы плануецца правесці рэспубліканскую нараду.

XXXIX Міжнародны фестываль мастацтваў «Беларуская музычная восень» працягнецца да 3 лістапада. Фэст арганізаваны пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі. Генеральны партнёр — ААТ «Банк БелВЭБ».

**Таццяна ШЫМУК**

# Летуценны пляменнік Купалы

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адкрылася дакументальна-мастацкая выстаўка «Душы маёй тварэнні», прымеркаваная да 85-годдзя з дня нараджэння Янкі Раманоўскага.

Пляменнік Янкі Купалы, пачынальнік мастацкай Купаліяны, адзін з першых беларускіх графікаў, таленавіты мастак і проста шчыры чалавек, Янка Раманоўскі адыграў значную ролю ў станаўленні беларускай графічнай школы. Ён быў адным з першых, хто пачаў працаваць у тэхніцы афорта.

Сын малодшай сястры Янкі Купалы Леакадзіі Дамінікаўны Раманоўскай, мастак невыпадкова звяртаецца ў сваёй творчасці да купалаўскай тэматыкі. Па яго ж словах, Купала быў першым крытыкам ды дарадцам, і так да апошняга развітання ў 1941 годзе.

Фотаздымкі і асабістыя рэчы мастака, прадстаўленыя на выстаўцы, распавялі пра яго біяграфію, мастацкія работы захапілі неверагоднай разнастайнасцю.

Дзіўна, што апошняя выстаўка мастака адбылася ажно ў 1978 годзе! Дарэчы, гэтым разам можна было пабачыць водгукі наведвальнікаў сямідзесятых гадоў. Няма ніводнага абыякавага запісу. Дырэктар музея Алена Ляшковіч распавядае: «Мы таксама зрабілі кнігу водгукаў. І магчыма, праз дваццаць-трыццаць гадоў нашы наступнікі адкрыюць новую выстаўку, на якой кожны зможа прачытаць нашы ўражанні».

Народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч узгадаў, якім быў пляменнік Купалы: «Добразычлівым, сціплым, інтэлігентным чалавекам, любіў сваю краіну, душэўна да ўсяго ставіўся. У яго не было пыхі ў носе! Як творца ён зрабіў нямала: у выяўленчым мастацтве адкрыў тэму Янкі Купалы і яго паэзіі». Працы Янкі Раманоўскага ўражваюць цеплынёй і прафесіяналізмам. Напэўна, у кожнага наведвальніка выстаўкі вобраз мастака, інтэлектуала, прадстаўніка найвыдатнейшага роду Беларусі захаваецца ў душы назаўсёды!

**Паліна ПЛАТАВА**

# Кіно і экалогія

Клуб дакументальнага кіно кінатэатра «Цэнтральны» запрашае 24 кастрычніка на паказ дакументальных фільмаў у межах Фестывалю экалагічнага кіно. Будуць прэзентаваны тры кароткаметражныя стужкі.

«Магія дрэва» — відавы паэтычны фільм пра беларускую прыроду, пра дрэвы, што выпрамењваюць энергетыку жыцця. Многія з іх ў Беларусі з'яўляюцца сапраўднымі помнікамі, з якімі звязаны легенды і паданні.

«Бясконцая радасць вады» — лірычны фільм, які апавядае пра найбольш цікавыя водныя крыніцы і стаўленне людзей да гэтага цуду прыроды. На працягу ўсёй гісторыі беларус шанаваў ваду як крыніцу жыцця, як святыню, вeрыў у яе гаючую сілу.

І, нарэшце, пра «Забраны край». Беларусі яшчэ доўга жыць з Чарнобылем. У фільме ідзе аповед пра вёску Тульгавічы, якая знаходзіцца на тэрыторыі Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Цяпер там толькі адзін жыхар, але ён не кінуты на волю лёсу, сюды прыязджае аўталаўка, вучоныя праводзяць свае даследаванні. Карціна ўяўляе зрэз вялікай сацыяльнай праблемы ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Уваход на прагляд фільмаў вольны.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**


Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ





**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by





Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2601
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 17.10.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4385
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686